ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№38
(2544)

18 верасня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

**У Вільнюсе 4—5 верасня праходзіла міжнародная канферэнцыя "Суіснаванне народаў і добрасуседскія адносіны — гарантыя бяспекі і стабільнасці ў Еўропе". У рабоце канферэнцыі прыняла ўдзел дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.**

**Як перадаюць сродкі масавай інфармацыі, Беларусь была ў цэнтры ўвагі як палітыкаў высокага рангу, так і шматлікіх журналістаў. У выніку двухдзённых дэбатаў, абмену думкамі і асабістых сустрэч прэзідэнтаў краін, якія прынялі ўдзел у вільнюскім саміце, стала відавочна, што Беларусь не надта зручны партнёр. Аднак нас імкнуцца цярпліва выхоўваць "на дэмакратычных прынцыпах", а не ізаляваць. Прэзідэнт Польшчы А. Квасьнеўскі заявіў: "Я ўпэўнены, што кіраўніцтва Беларусі зразумее, што гэтай дарогай належыць ісці, гэта найлепшая дарога да міру і супрацоўніцтва ў Цэнтральнай Еўропе".**

**У той час, як большасць прэзідэнтаў заявілі ў Вільнюсе аб сваіх пранатаўскіх прыхільнасцях, А. Лукашэнка выступіў з рэзкім асуджэннем палітыкі пашырэння НАТА на Усход.**

*(Выступленне Прэзідэнта Беларусі ў Вільнюсе змешчана на 4-й стар.).*

## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ



**Дзень беларускага пісьменства і друку становіцца святам агульнанацыянальным і традыцыйным. Чацвёрты раз у першую нядзелю верасня адзначаецца яно ў рэспубліцы, маючы на мэце асэнсаванне гістарычнага шляху пісьменства і друку на Беларусі, імкнучыся павысіць яго ролю і значэнне ў духоўным жыцці грамадства.**

**НА ЗДЫМКУ: пачатак свята ў Нясвіжы 7 верасня 1997 года.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 5-й стар.).*

СЯРОД КНІГ

## «У ДАБРО — ЯШЧЭ ЎСЁ ВЕРУ»

Жыццё і творчасць кожнага паэта складаецца з этапаў. Здараецца, праўда, што каторы з майстроў супыняецца, затрымліваецца на пераходзе. І ўжо тады зярняты, зорныя адкрыцці пачынаюць губляцца, прыгасаць.

Уважліва назіраючы за творчасцю Кастуся Жука (паэт нарадзіўся ў вёсцы Затур'я Нясвіжскага раёна), падумаў, што восць у межах тых першых трох кніг паэт і развіваецца. А першыя тры (калі не лічыць сур'ёзнай падборкі ў калектыўным зборніку "Нашчадкі") — "Планета маёй душы", "Зямная ноша", "У найме ў сонца". І варта заўважыць, што межы гэтыя даволі шырокія, прастора паэтычных пошукаў Кастуся Жука — шматгранная.

Ды новая кніга "Галгофа", толькі што выдадзеная "Мастацкай літаратурай", пераконвае, сцвярджае ў думцы: Кастусь Жук пашырае межы ўласнага светаадчування, прарываецца ў новы этап.

**Вісажарам,**
**плёсам,**
**рэкам,**
**Мове рыб,**
**траве над кручай —**
**Веру**
**На сканчэнні веку,**
**Веру,**
**Веру немінучá.**

**І хоць б'е жыццё няўмольна,**
**Ныць —**
**Не маю я намеру.**
**Несканчона, неспатольна**
**У дабро —**
**Яшчэ ўсё веру.**

Зборнік, акрамя вершаў, перакладаў, эпіграм, уключае тры паэмы — "Дванаццаць апосталаў" (гістарычная паэма на сучасную тэму ў пяці раздумах), "Галгофа", "Леснічоўка" (паэма-прытча). У першай з іх Кастусь Жук вяртаецца ў родны Нясвіж, на фоне добра вядомай гісторыі з дванаццаццю апосталамі разважае пра бяспамяцтва, скажэнне праўды... Сюжэт паэмы даволі зразумелы, прыземлена-рэалістычны. Але ж для афармлення паэтычнай ідэі дэталі аўтарам абраны трапяткія, выразныя. Словам, тыя дэталі, што і самі здольныя гаварыць, нешта сцвярджаюць. Але апосталы, старажытныя нясвіжскія муры — падстава для аўтарскага, маналога пра сучаснасць. Пішучы пра мінуўшчыну, пра легенду Радзівілаў, Кастусь Жук праніклівa вызначае ролю, месца гісторыі ў нашым згрызотна-бядотным жыцці:

**У ёй усё,**
**нібы на кінаплёнцы,**
**Адлюстравана,**
**Вышкалена часам:**
**Галеча,**
**бізнес,**
**золата,**
**чырвонцы,**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

*ШЛЮБНЫ БІЗНЕС*

## САМОТА — ПРАБЛЕМА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ

Ва ўсім свеце дзяржаўныя структуры да шлюбнага бізнесу ставяцца адмоўна, лічачы, што грамадзяне ў стане знайсці сабе другую палавіну сярод шматмільённага насельніцтва ўласнай краіны і не трэба разбаўляць нацыянальны генафонд чужой крывёю. І ва ўсім свеце шлюбны бізнес працвітае, як адзін з самых надзейных і даходных, таму што адзінота — праблема інтэрнацыянальная і вечная, што само па сабе служыць гарантыяй яго поспеху.

Пасля ўзняцця "жалезнай заслоны" Савецкі Саюз стаў сапраўдным запаведнікам для заходніх жаніхоў. Спачатку многія жаніліся з нашымі жанчынамі, аддаючы даніну модзе на рускіх жонак, якая на Захадзе, па сутнасці, ніколі не праходзіла. Аднак крыху пазней у справу пайшоў уласцівы заходнім мужчынам цвярозы разлік: яны хутка скемілі, што акрамя традыцыйна ўласцівых нашым жанчынам (ва ўяўленні заходняга мужчыны) якасцяў, такіх, як пяшчота, аддаласць, самаахвярнасць, руская жонка будзе абыходзіцца танней, чым самая звычайная суайчынніца. Акрамя таго, на Захадзе набраў сілу і расцвіў феміністычны рух. Наколькі рашуча, цвёрда, а часам апантана жанчыны ўзяліся там даказваць, што могуць у гэтым жыцці абысціся без мужчын, сведчыць хаця б той факт, што ў добрай старой Англіі да паслуг жанчын, якія вырашылі стаць маці, створана каля двухсот спецыяльных клінік па штучнаму апладненню. Не дзіўна, што мужчыны, адсунутыя з таго месца, на якое іх паставіў сам Бог, адчулі сябе няўтульна. І шукаюць яны ў нас тое, што страцілі ў сябе дома, таму што ў нашай краіне жанчыны ўжо даўным-даўно стаміліся ад той самай роўнасці, самастойнасці і незалежнасці, за якія цяпер так энергічна змагаюцца заходнія.

У Маскве шлюбны бізнес існуе многія гады, справа пастаўлена на шырокую нагу, шматлікія фірмы выдаюць прыгожыя каталогі, прадстаўляюць сваіх кліентак у Інтэрнеце, які стаў актыўна выкарыстоўвацца шлюбнымі агенцтвамі ледзь ці не з першага дня свайго існавання. У Мінску шлюбныя агенцтвы і службы знаёмстваў з'явіліся амаль адначасова з расійскімі, аднак яны, як правіла, праіснаваўшы нядоўга, распадаліся, так і не дасягнуўшы маскоўскага размаху і стабільнасці. Адна з нямногіх службаў знаёмстваў, што мела амаль пяцігадовы стаж работы, — "Клуб сям'і" пры вытворча-камерцыйным прадпрыемстве "Ін спайт оф". Толькі за мінулы год пры яе садзейнічанні было заключана адзінаццаць шлюбаў, не гаворачы пра тых, хто проста знайшоў сабе добрых сяброў.

Утворана служба знаёмстваў была ў 1994 годзе, і тады адным з першых яе замежных партнёраў быў шэрыф з невялікага гарадка ў сонечнай Каліфорніі. Уладкаванне асабістага жыцця яго кліентаў для шэрыфа было нечым накшталт хобі, якое дапамагала ў асноўнай рабоце, бо мужчыны, абцяжараны шчаслівым шлюбам, значна менш за адзінокага халасцяка схільны ўчыняць глупствы і прaцiпраўныя ўчынкі.

Пры заключэнні шлюбаў праз агенцтва для многіх мае значэнне нацыянальны фактар: часта сюды звяртаюцца нашы былыя суайчыннікі, якія асталяваліся за мяжой і хочуць ажаніцца толькі з жанчынай са сваёй гістарычнай радзімы. Яўрэі часта ўказваюць у пісьмах, што хацелі б заключыць шлюб толькі з яўрэйкай, вернуючыя аддаюць перавагу вернуючым, а мужчыны-медыкі чамусьці просяць знайсці ім жонку медсястру ці ўрача. І яшчэ адна цікавая дэталь: на Захадзе

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

НА ПАЛІТЫЧНЫМ НЕБАСХІЛЕ

## ЧАЛАВЕК ТЫДНЯ Ў ЛІТВЕ — АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА

Папулярная ў Літве штодзённая газета "Рэспубліка" чалавекам мінулага тыдня Літвы назвала Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнку, які на віленскай канферэнцыі кіраўнікоў дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы выклікаў найбольшую цікавасць журналістаў і грамадскасці. З гэтай нагоды газета прысвяціла А. Лукашэнку цэлую старонку, у якой друкуе ўсе адказы Прэзідэнта Беларусі журналістам, дадзеныя ў час яго знаходжання ў Вільнюсе.

Між іншым, нават даклады ўсіх астатніх кіраўнікоў дзяржаў друкаваліся толькі ў кароткіх пераказах, а прэс-канферэнцыі многіх засталіся ўвогуле без увагі літоўскіх газетчыкаў.

ПРАФСАЮЗЫ

## САЦЫЯЛЬНАЕ ПАРТНЁРСТВА

Прафсаюзы павінны садзейнічаць стабільнасці ў грамадстве — такая цвёрдая пазіцыя Федэрацыі прафсаюзаў беларускай. Аб гэтым заявіў на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 9 верасня, старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык. Ён таксама выказаў думку, што спробы некаторых палітычных сіл дэстабілізаваць сітуацыю ў краіне, уцягваючы ў мітынговыя страсці прафсаюзы, не прывядуць да паляпшэння сацыяльна-эканамічнага становішча.

Адзначыўшы станоўчыя тэндэнцыі ў эканоміцы рэспублікі, якія вызначаны ростам аб'ёму прадукцыі і павелічэннем унутранага валавога прадукту, прафсаюзны лідэр усё ж выказаў заклапочанасць ростам цэн на асноўныя спажывецкія тавары і паслугі. На яго думку, сярэдняя заработная плата, якая складае сёння 2 300 тысяч рублёў, пры мінімальным спажывецкім бюджэце 1 900 тысяч рублёў у месяц, не садзейнічае росту спажывецкага попыту і, значыць, не вядзе да павышэння жыццёвага ўзроўню людзей.

ЗАГІНУЎШЫМ САЛДАТАМ



Надалёка ад Стоўбцаў — у месцы, якое з'яўляецца геаграфічным цэнтрам Еўропы, адбылася закладка ваенна-ландшафтнага мемарыяла "XX стагоддзе — загінуўшым салдатам". Тут закладзены першыя капсулы з зямлёй, сабранай на асноўных магілках Нарвегіі, дзе пакоіцца астанкі 12 781 савецкага салдата. На закладцы капсулы прысутнічалі дэлегацыі з Нарвегіі і Германіі.

НА ЗДЫМКАХ: у час цырымоніі.

ІНВЕСТЫЦЫІ

## ГАТОВЫ ПРАЦАВАЦЬ У БЕЛАРУСІ

Аб жаданні польскіх інвестараў размясціць у Беларусі свой капітал і тым самым садзейнічаць стварэнню ў нашай краіне новых рабочых месцаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы Эва Спыхальска заявіла на сустрэчы са старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў беларускай сталіцы Уладзімірам Ганчарыкам, якая прайшла ў штаб-кватэры ФПБ. Паміж бакамі адбыўся змястоўны абмен думкамі па шэрагу сацыяльна-эканамічных праблем, што ўяўляюць цікавасць для нашых краін.

З НАГОДЫ

## ПРА СКАРЫНУ Ў ПРАЗЕ

У Празе ў Нацыянальнай бібліятэцы адкрылася кніжная выстава, прысвечаная важнай даце ў гісторыі беларускага кнігадрукавання. 480 гадоў таму Францішак Скарына выдаў у гэтым горадзе "Псалтыр", што і стала пачаткам летазлічэння беларускага друкаванага слова.

Як паведаміў БЕЛТА пасол нашай краіны ў Чэшскай Рэспубліцы Уладзімір Бельскі, юбілей "Псалтыра" стаў і тэмай навуковай канферэнцыі, якая адбылася ў Празе 5 верасня. З дакладам на ёй выступілі скарыназнаўцы з Беларусі, Расіі, Літвы, ЗША і Польшчы. Кіраўніцтру Нацыянальнай і Славянскай бібліятэк былі перададзены ў дар новыя выданні кніг аб Францішку Скарыне і гісторыі Беларусі. Заключныя святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя 480-годдзю выдання "Псалтыра", адбудуцца 30 і 31 кастрычніка ў сталіцы і іншых гарадах Чэшскай Рэспублікі.

БЕЛАРУСКІЯ НАФТАВІКІ



Удзень і ноччу, у летнюю спёку і ў зімнія халады нястомна нясуць сваю нялёгкую вахту нафтавікі. Кожныя суткі больш 5 тысяч тон "чорнага золата" падымаецца на паверхню і прыкладна столькі ж вады запампоўваецца ў свідравіны. За трыццаць гадоў, з пачатку распрацоўкі 60 беларускіх радовішчаў нафты, якія сканцэнтраваны ў Прыпяцкай упадзіне на плошчы каля 30 тысяч квадратных метраў, здабыта больш 100 мільёнаў тон нафты і 8,4 мільярда кубаметраў газу.

За тры дзесяцігоддзі беларускімі праходчыкамі нетраў прабурана больш 18 мільёнаў метраў горных парод, што ў паўтара раза перавышае экватарыяльны дыяметр зямнога шара. Гэта дазволіла скончыць будаўніцтва 1 320 свідравін у Беларусі і больш 5 тысяч за яе межамі. Спецыялісты "Беларуснафты" працавалі ў Індыі, Алжыры, Сірыі, Лівіі, Балгарыі, В'етнаме, на Кубе.

У аб'яднанні пабудавана сістэма нафтагазазборных трубаправодных камунікацый агульнай працягласцю каля 2 300 кіламетраў.

У гэтым годзе ў аб'яднанні плануюць здабыць 1 871 тысячу тон нафты і больш за 160 мільёнаў кубаметраў газу. Замежнымі партнёрамі "Беларуснафты" з'яўляюцца на сёння Румынія, Польшча, Чэхія, Славакія, Балгарыя, Эстонія, Аўстрыя, Швейцарыя, Вялікабрытанія, Францыя, Італія, ЗША, Канада, Японія.

НА ЗДЫМКУ: нафтавыя свідравіны на Рэчыцкім радовішчы.

ТЭАТРАЛЬНЫ СЕЗОН

## ВЯРТАЕЦЦА «НЕСЦЕРКА»

У верасні амаль усе тэатры і канцэртныя залы адкрываюць новыя сезоны.

Сезон у Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа пачынаецца з новым галоўным рэжысёрам. Ім стаў Віталь Баркоўскі, які да гэтага працаваў у сталічным тэатры "Дзе-Я!". Зрэшты, імя рэжысёра добра вядомае і ў іншых тэатрах краіны, бо амаль ва ўсіх іх ён ставіў спектаклі. У Коласаўскім тэатры Віталь Баркоўскі збіраецца заняцца пастаноўкай п'ес беларускіх драматургаў. А адкрываецца новы сезон, як заўсёды, спектаклем "Несцерка".

ПА-ЗА КАНКУРЭНЦЫЯЙ

## МІНСКІЯ ЦЯГАЧЫ Ў ПУСТЫНІ

Мінскі завод колавых цягачоў выйграў адзін з самых прэстыжных тэндэраў, што праходзіў у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.

Наша прадпрыемства прадстаўляла там перспектыўную камбінацыю аўтапоезда "МЗКТ-74135-ЛОР СМЦ-70-3+2", створанага разам з арабскай фірмай "АТФ" і французскай фірмай "ЛОР".

Як паведаміў дырэктар Мінскага завода колавых цягачоў Уладзімір Волкаў, беларускаму аўтапоезду давялося вытрымаць вельмі цяжкія спаборніцтвы з прадукцыяй, якая ўяўляе камбінаваныя варыянты тэхнікі такіх вядомых еўрапейскіх і амерыканскіх фірм, як "Татра-Кегель", "МАН", "Зэпелін", "МАН"-"Шмітц". Выпрабаванні паказалі, што аўтапоезд Мінскага завода колавых цягачоў грузападымальнасцю 70 тон можа паспяхова канкурыраваць з аналагамі вядучых аўтамабільных кампаній свету.

АДУКАЦЫЯ І ЗДАРОЎЕ

## «ШКОЛЬНАЯ» ХВАРОБА

Пагаршэнне здароўя школьнікаў выклікае ў медыкаў сур'ёзную занепакоенасць. Паводле даных Міністэрства аховы здароўя Беларусі, 23,9 працэнта дзяцей маюць хранічныя хваробы. Адсутнасць паўнацэннага харчавання ў сем'ях прывяло да росту захворванняў страўнікава-кішэчнага тракту. У Мінскім гарвыканкоме запэўнілі, што ў новым навучальным годзе харчаванне ў школах стала больш якасным. Але поўны абед маюць толькі 25 працэнтаў школьнікаў. Большасць задавальняюцца бутэрбродам, прынесеным з дому, набываючы ў выніку гастрыт. А 11 працэнтаў навучэнцаў і зусім не абедаюць у школе.

У чвэрці першакласнікаў выяўлены нервова-псіхічныя расстройствы, а да моманту заканчэння школы — у 93 працэнтаў выпускнікоў. Атрымліваецца, што ў жыццё маладое пакаленне адпраўляецца псіхічна неўраўнаважаным.

Існуе група захворванняў, якая атрымала ў медыкаў назву "школьная" хвароба. Калі ў першым класе скаліёз адзначаецца ў пяці працэнтаў дзяцей, то ў пятым — амаль у палавіны школьнікаў. Калі "акулярыкамі" называюць толькі тры працэнты першакласнікаў, то да заканчэння школы ад парушэння зроку пакутуе кожны другі выпускнік.

У Рэспубліканскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі лічаць, што крайне дрэнна на здароўе школьнікаў уплываюць навучанне ў другую змену, вялікая вучэбная нагрузка, недасканаласць матэрыяльна-тэхнічнай базы школ.

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

УРАД Беларусі прыняў пастанову аб увекавечанні памяці выдатных прадстаўнікоў сцэнічнага мастацтва рэспублікі — акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Глеба Глебава і Галіны Макаравай. На дамах, дзе яны жылі, будуць устаноўлены мемарыяльныя дошкі.

У МАЛАДЗЕЧНЕ ствараецца раённы цэнтр народных рамёстваў, які аб'ядное кавалёў, бондараў, рэзчыкаў, вышывальшчыц і ўмельцаў іншых накірункаў. У цэнтра будуць і свае філіялы — у Радашковічах будуць выпускаць керамічныя вырабы, у Бярэзінскім — сувеніры з саломкі, у Вязыніцы адчыняць кавальскую майстэрню, а ў Красаўшчыне маюць выпускаць габелены.

МІНСКІ гарадскі выканаўчы камітэт прыняў комплексную праграму развіцця фізічнай культуры і спорту сталіцы, якая разлічана да 2000 года. Згодна з праграмай ужо сёлета ў кожным домакіраўніцтве будуць уведзены штатныя пасады інструктараў-метадыстаў па рабоце з дзецьмі.

УКАЗАМ Прэзідэнта А. Лукашэнкі Валянцін Вялічка, які быў паслом Беларусі ў Латвіі і па сумяшчальніцтву ў Фінляндыі, прызначаны міністрам Рэспублікі Беларусь па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

РАНІЦАЙ 10 верасня ў Мінску, у будынку па Лагойскаму тракту, дзе размяшчаюцца суды Савецкага раёна сталіцы, Мінскага раёна і горада Заслаўя, адбыўся выбух. Часткова пашкоджаны будынак суда, выбіта шкло ў вокнах. Вінаватых шукаюць.

КАЛЯ 90 тысяч мнагадзетных сем'яў Беларусі атрымалі летам ад дзяржавы матэрыяльную дапамогу. Яна выдзелена сем'ям, якія выхоўваюць трох і больш дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў.

ФЕСТЫВАЛЬ



У Мінску праходзіў першы Абшчынны фестываль яўрэйскай кнігі. Ён уключаў разнастайныя мерапрыемствы — гэта і адкрыццё ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі выставы яўрэйскай літаратуры, і вечар яўрэйскага гумару, і свята яўрэйскай дзіцячай кнігі.

НА ЗДЫМКУ: у час перадачы яўрэйскай літаратуры Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.

# САМОТА — ПРАБЛЕМА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

наяўнасць у жанчыны дзіцяці ад папярэдняга шлюбу разглядаецца не як недахоп, а як станоўчая якасць.

Увогуле ж, розніца ў падыходзе да ўладкавання ўласнага лёсу заходнімі мужчынамі і нашымі жанчынамі ўражвае дыяметральнай процілегласцю: мужчына, які сур'ёзна вырашыў ажаніцца, ідзе ў агенцтва ў сябе на радзіме, плаціць да тысячы долараў за тое, каб пэўны час для яго шукалі варыянты, якія адпавядалі б яго патрабаванням, аплачвае тэлефонныя размовы са сваёй сяброўкай, білеты сабе, калі ён вырашыў прыехаць паглядзець на яе, ці ёй, калі выклікае ў госці. І калі ў дзеяннях заходніх мужчын прагглядваецца цвярозы дзелавы разлік, то нашы жанчыны да ўладкавання лёсу адносяцца фатальна, не жадаючы да гэтага прыкласці ўласных намаганняў. Толькі адзінкі ведаюць замежныя мовы на самым пачатковым узроўні, атрымаўшы пісьмо, месяц-два носяць яго ў сумачцы, збіраючыся перакласці, потым столькі ж пішуць адказ і яшчэ месяц шукаюць паштовую скрынку. На просьбы работнікаў агенцтваў і служб паспяшацца, як правіла, адказваюць, што калі гэта — яе лёс, то само ўсё складзецца.

Як паказвае вопыт, вельмі багатых мужчын сярод кліентаў шлюбных агенцтваў не сустракаецца, відаць, у іх і дома хапае жадаючых іх ашчасліваць. Вельмі бедных — таксама. Звяртаюцца ў асноўным прадстаўнікі сярэдняга класа. Апошнім часам з'явілася многа камп'ютэршчыкаў, маладых мужчын ва ўзросце ад 30 да 40 год, якім трэба ўладкоўваць сямейнае жыццё, *але займацца гэтым няма калі.* У вольны ад работы ў Інтэрнеце час яны заглядваюць у файлы шлюбных агенцтваў і з дапамогай электроннай пошты імкліва ўладкоўваюць свой лёс.

Жанчыны ў такія бюро звяртаюцца самыя розныя — сярод іх можна сустрэць выкладчыкаў ВНУ, рэферэнтаў, банкаўскіх работнікаў. У "Клубе сям'і" пры вытворча-камерцыйным прадпрыемстве "Ін спайт оф" на просьбу намаляваць тыповы партрэт іх кліенткі адказалі, што гэта, як правіла, жанчына ад 28 да 40 гадоў з вышэйшай адукацыяй, разведзеная, з адным ці двума дзецьмі. Ёсць і шасцідзесяцігадовыя кліенткі, якія, між іншым, зусім паспяхова ўладкоўваюць сваё асабістае жыццё. Менш за ўсё, як паказвае вопыт, выйсці замуж за мяжу імкнуцца работнікі гандлю. Толькі нямногія жанчыны могуць цвёрда і мэтанакіравана сказаць, у якой краіне хацелі б знайсці будучага мужа. Большасць у адказ на гэтае пытанне гавораць, што хацелі б туды, дзе клімат цяплейшы і каб не вельмі далёка ад дому.

Найбольш прафесійны падыход да справы давялося ўбачыць у шлюбным агенцтве "Еўра-Плюс", дзе, апрача анкет, якія ўтрымліваюць поўныя звесткі не толькі аб росце, вазе і колеры вачэй кліенткі, уключаны вельмі падрабязныя пытанні аб стане яе здароўя. Там жа пасля звяртання ў агенцтва праводзіцца відэаздымка, у час якой вядзецца сінхронны пераклад кароткага расказу жанчыны пра сябе і пра тое, што яна чакае ад будучага знаёмства. Відэаздымка не замяняе абавязковых у такіх выпадках фатаграфій, а служыць дапаўняючай іх інфармацыяй, таму што, прагледзеўшы з дзесятак такіх зваротаў, разумееш, як многа пра жанчыну можа сказаць тое, як яна садзіцца, устае, расказвае пра сябе.

Тэме шлюбных кантактаў прысвечана і старонка ў інтэрнет-часопісе "WWW BELARUS". Ідэя зрабіць жанчынам падарунак да 8 Сакавіка прыйшла ў галаву яго дырэктару Паўлу Сідарэнку. Была дадзена аб'ява аб бясплатным святочным размяшчэнні ў Інтэрнеце інфармацыі пра жанчын, і яны не прымусілі сябе чакаць. Практычна на другі дзень пайшла электронная пошта ад мужчын з розных краін свету, якія зацікавіліся новаўвядзеннем. Зразумеўшы, што паслуга карыстаецца попытам, старонку ў серверы зрабілі пастаяннай. Сідарэнка расказаў, што яны спрабавалі прапанаваць паслугі па размяшчэнню інфармацыі пра жанчын у сусветнай камп'ютэрнай сетцы мінскім шлюбным агенцтвам і службам знаёмстваў, але водгуку з іх боку не атрымалі. На жаль, фірмы лічаць за лепшае працаваць самастойна, не выказваючы імкнення да ўзаемадзеяння нават дзеля відавочнай выгады, якую можа прынесці мадэрнізацыя іх работы. Дарэчы, на Захадзе ўжо даўно існуюць спецыяльныя серверы, што аб'ядноўваюць інфармацыю шлюбных агенцтваў усяго свету.

Увогуле ж, жанчынам, якія звяртаюцца ў прыстойныя шлюбныя агенцтвы ці службы знаёмстваў, часта стараюцца растлумачыць, што мужчыны, як, зрэшты, і жанчыны, паўсюль аднолькавыя: скнары і садысты сустракаюцца не толькі на радзіме, але і за акіянам і шлюб з іншаземцам сам па сабе не можа з'яўляцца гарантыяй шчаслівага жыцця. Больш таго, ад'язджаючы ў сталым узросце на пастаяннае месца жыхарства ў іншую краіну, трэба быць гатовым да таго, што давядзецца сутыкнуцца з іншымі традыцыямі, звычкамі, спосабам жыцця, якія дзеля цябе ніхто не будзе ламаць ці мяняць. Як правіла, жанчыны згодна ківаюць галавой, прапускаючы гэтыя словы міма вушэй, і ўспамінаюць пра іх, толькі сутыкнуўшыся ўшчыльную з новым жыццём. Тым не менш, усім, хто збіраецца ўладкоўваць сваё асабістае жыццё за мяжой, трэба помніць, што на гэтым шляху іх могуць чакаць не толькі прыемныя сюрпрызы. Час ад часу сярод прапаноў, што паступаюць шлюбным агенцтвам, сустракаюцца і такія: сабраць групу дзяўчат ад 18 да 23 гадоў без дзяцей, якіх потым аўтобусам, прадастаўленым заходнім партнёрам, павязуць у тую ці іншую краіну на пару месяцаў "на агледзіны". Прычым, бывае, што ад тутэйшых партнёраў не лічаць патрэбным утойваць сапраўдныя мэты такога вояжу, прапаноўваючы за гэта нядрэнныя грошы. Паважаючыя сябе агенцтвы са стажам на падобныя прапановы адказваюць адмовай, захоўваючы не толькі гонар кліентак, але і свой. А нехта можа і згадзіцца... Здараецца, што ў газеты даецца пышная рэклама новага шлюбнага агенцтва, якое запрашае жанчын і дзяўчат у пэўны час прыйсці на бясплатную фотаздымку. Атрыманыя фатаграфіі размяшчаюцца ў каталогу разам з кароткімі расказамі жанчын пра сябе і хатнімі адрасамі. Затым іх прадаюць атэлям ці фірмам, што спецыялізуюцца на секс-турызме, як крыніцу інфармацыі для тых, хто збіраецца наведаць нашу краіну з вельмі далёкімі ад заключэння шлюбу мэтамі. "Шлюбнае агенцтва", якое паднесла дзяўчатам такі падарунак, знайсці ўжо не зможа ніхто: пасля здымак яно проста перастае існаваць... Увогуле ж, жанчыны, якія звяртаюцца ў шлюбныя агенцтвы і службы знаёмстваў, сёння могуць спадзявацца толькі на сваю інтуіцыю, бо дзейнасць гэтых фірм не кантралюецца, не рэгламентуецца і не правяраецца, таму што шлюбны бізнес не ўваходзіць у зацверджаны Кабінетам Міністраў пералік відаў дзейнасці, якія падлягаюць ліцэнзаванню, застаючыся адным з нямногіх, калі не адзіным, аб якім дзяржава чамусьці забылася.

Бывалі выпадкі, калі ўзнікалі праблемы з уездам на радзіму будучага мужа: многія дзяржавы на шлюб з нашымі жанчынамі глядзяць з недаверам, думаючы, што гэта толькі нагода для легальнага ўезду ў краіну з наступным атрыманнем грамадзянства. У некаторых выпадках гэтае меркаванне не пазбаўлена сэнсу: многія жанчыны, прыходзячы ў службу знаёмстваў ці шлюбнае бюро, не ўтойваюць, што шукаюць мужа за мяжой толькі для таго, каб выехаць адсюль.

На пытанне, ці можа сёння ў Беларусі шлюбнае агенцтва існаваць як асобны від бізнесу, давялося пачуць процілеглыя адказы: адны гаварылі, што яно можа быць толькі асобнай структурай, якая ўваходзіць у склад буйной фірмы, іншыя ж лічаць, што гэта — неўзаранае поле і залатое дно, паколькі для "раскруткі" гэтага віду бізнесу трэба толькі памяшканне, невялікі штат і натоўпы адзінокіх жанчын, якія мараць уладкаваць сваё жыццё. Тым не менш, на сённяшні дзень не ўдалося знайсці ў Мінску ніводнага шлюбнага агенцтва ці службы знаёмстваў, якія, існуючы самастойна, прыносілі б сваім стваральнікам адчувальны даход. Як правіла, гэта адна з састаўляючых больш буйнога бізнесу, які па роду асноўнай дзейнасці мае трывалыя кантакты з той ці іншай замежнай краінай. Дарэчы, даволі часта ініцыятыва стварэння службы знаёмстваў належыць замежнаму партнёру, які, карыстаючыся тутэйшым "банкам нявест", бярэ на сябе пошук "жаніхоў" на Захадзе. Многія фірмы трымаюцца на энтузіязме іх стваральнікаў — што можа быць цікавей для жанчыны, чым актыўны ўдзел ва ўладкаванні чужых лёсаў? "Разгарнуцца" па-сапраўднаму, выкарыстоўваючы адначасова анкетаванне, відэаздымкі, паслугі Інтэрнета і электроннай пошты пакуль у Мінску не ўдалося нікому. У кожнай фірмы маецца свой банк даных, але распаўсюджаных ва ўсім свеце друкаваных каталогаў, дзе былі б прадстаўлены беларускія жанчыны, жадаючыя знайсці сабе мужа ці сябра за мяжой, тут выдаваць няма каму.

Што тычыцца аплаты паслуг сучасных сваццяў, то тут адзіны падыход таксама адсутнічае. Так, у міжнароднай службе знаёмстваў "Наталі" кошт анкет складае ад 10 да 25 долараў ЗША. Дырэктар агенцтва Наталля Кутузава наконт гэтага заўважыла, што калі разглядаць гэтую суму, як плату за аркушы паперы з аддрукаваным тэкстам, то, вядома, гэта многа, а калі лічыць, што за гэтыя грошы табе прадастаўляецца магчымасць уладкаваць сваё жыццё, усё здаецца крыху іншым. Размяшчэнне інфармацыі ў інтэрнет-часопісе "WWW BELARUS" абыходзіцца жанчынам у 200 тысяч беларускіх рублёў. У гэтую суму ўваходзіць кошт перакладу на англійскую мову невялікага пісьма пра сябе, скануіраванне дзвюх каляровых фатаграфій, размяшчэнне ў Інтэрнеце. (Дарэчы, падобныя паслугі ў Маскве каштуюць каля 300 долараў).

У "Клубе сям'і" пры ВКП "Ін спайт оф" кліент у дзень звароту плаціць усяго 50 тысяч беларускіх рублёў. У адным з агенцтваў, назву якога папрасілі ў гэтай сувязі не называць, карыстаюцца наступнай схемай: тут з патэнцыяльных нявест грошай не бяруць, затое ў выпадку ўдачы ўсе расходы заходняму партнёру аплачвае за мяжой шчаслівы жаніх. Як потым размяркоўваецца прыбытак паміж кампаньёнамі — вытворчая тайна.

Можна з поўным правам сказаць, што шлюбны бізнес у Беларусі сёння адчувае сябе няўпэўнена. Аднак, у адрозненне ад іншых відаў бізнесу, попыт і прапанова тут будуць існаваць заўсёды, што гарантуе, калі не працвітанне, то хаця б трывалае і надзейнае яго існаванне.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ПРЫГОЖЫЯ, РАЗУМНЫЯ, ДАСТУПНЫЯ



**Да новага навучальнага года для спецыяльных школ, дзе вучацца дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, выдавецтвамі "Народная асвета", "Полымя" ўпершыню выпушчана 27 назваў навучальных дапаможнікаў для вучняў першых класаў і 17 падручнікаў для другакласнікаў. Сёлета спецыяльныя школы рэспублікі для навучання сляпых дзяцей атрымаюць таксама 13 новых падручнікаў. Гэта будуць першыя айчынныя кнігі, выдадзеныя шрыфтам Брайля. Прыгожыя, даступныя для разумення, разумныя кніжкі былі прадэманстраваны на прэзентацыі, якая адбылася ў Мінску ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы, на якой прысутнічалі міністр адукацыі Васіль Стражаў, супрацоўнікі Нацыянальнага інстытута адукацыі і Навукова-метадычнага цэнтра, аўтары і стваральнікі падручнікаў, вядучыя рэдактары і мастакі.**

**Як высветлілася, у нашай рэспубліцы каля 11 працэнтаў дзяцей з парушэннямі ў развіцці, якія маюць патрэбу пры атрыманні сярэдняй адукацыі ў падтрымцы спецыялістаў асобага профілю — педагогаў-дэфектолагаў.**

**Ужо з 1996—97 навучальнага года ў Рэспубліцы Беларусь пачаўся паступовы пераход на новы змест адукацыі ў спецыяльных агульнаадукацыйных школах. З мэтай стварэння неабходных умоў для такіх дзяцей распрацаваны восем праграм індывідуальнай адукацыі, а таксама мадэлі розных адукацыйных устаноў. І першай ступенню ў стварэнні нацыянальнай сістэмы спецыяльнай адукацыі стала тое, што па даручэнню міністэрства Нацыянальны інстытут адукацыі распрацоўвае першыя айчынныя падручнікі, праграмы для ўсіх тыпаў спецыяльных школ. Арганізавана мэтанакіраваная работа аўтарскіх калектываў па стварэнню першых у гісторыі рэспублікі навучальных дапаможнікаў для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Ужо выдадзены камплекты падручнікаў для першых і другіх класаў для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы, з затрымкай псіхічнага развіцця, з парушэннем слыху, для дзяцей з парушэннем інтэлекту.**

**На жаль, да гэтага часу асобныя катэгорыі такіх дзяцей не атрымлівалі нават пачатковай адукацыі. З прыняццем Міністэрствам адукацыі рэспублікі "Палажэння аб індывідуальнай адукацыі" пачалі стварацца ўмовы для іх навучання і развіцця. Паступова ствараюцца перадумовы для пераадолення ізаляцыі дзяцей з дэфектамі ў развіцці. Самае галоўнае тут — змяніць адносіны грамадства да такіх дзяцей.**

**Прыемна, што знайшліся ў нашай рэспубліцы і сродкі, і вучоныя, якія стварылі неабходныя падручнікі. Карыстанне імі для дзяцей бясплатнае. Сабекошт іх высокі. Толькі адзін экземпляр падручніка, выдадзены шрыфтам Брайля, каштуе паўтара мільёна рублёў.**

**Святлана СІМАНАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час прэзентацыі; так выглядаюць падручнікі для навучання дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**



# АДЗІНСТВА ЕЎРОПЫ МОЖА БЫЦЬ ДАЎГАВЕЧНЫМ, КАЛІ НАШЫ АДНОСІНЫ БУДУЦЬ ГРУНТАВАЦЦА НА ПРЫНЦЫПАХ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

***Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на Міжнароднай канферэнцыі «Суіснаванне народаў і добрасуседскія адносіны — гарантыя міру і стабільнасці ў Еўропе» ў Вільнюсе 5 верасня***



**Кіраўнікі дзяржаў — удзельнікі сустрэчы ў Вільнюсе пасадзілі дуб, які павінен сімвалізаваць дружбу.**

Паважаны пан Старшыня!

Паважаныя ўдзельнікі канферэнцыі!

Дамы і панове!

Перш за ўсё хачу выказаць глыбокую падзяку паважаным прэзідэнтам Літвы і Польшчы за запрашэнне на гэту унікальную па свайму значэнню і складу міжнародную канферэнцыю.

Такая прадстаўнічая канферэнцыя, якая сабрала кіраўнікоў дзяржаў, буйнейшых грамадскіх дзеячаў, вучоных, дзеячаў культуры, — самае прыдатнае месца для нефармальнай і шчырай размовы аб міры і стабільнасці ў Еўропе.

Калі мы азірнёмся на гісторыю Еўропы, то ўбачым, што наш кантынент ніколі не быў адзіным. Ён быў заўсёды падзелены, і гэтыя падзелы нязменна прыводзілі да канфліктаў з трагічнымі вынікамі.

Беларуская зямля дагэтуль захоўвае на сваім целе глыбокія раны ад гэтых канфліктаў і нашэсцяў. У гістарычнай памяці майго народа ўсё яшчэ жывыя ўспаміны аб войнах, якія пракаціліся праз нашу краіну, выпальваючы ўсё жывое. Дастаткова сказаць, што ў апошняй вайне Беларусь страціла каля трэці свайго насельніцтва. Менавіта таму імкненне да міру, добрасуседства і згоды — у характары кожнага беларуса.

Заканчэнне "халоднай вайны" парадзіла ў нашага народа вялікія надзеі на тое, што час падзелаў Еўропы адыдзе назаўсёды ў мінулае.

Упершыню за сваю гісторыю народы кантынента атрымалі магчымасць жыць адзінай дружнай сям'ёй. Гэта сапраўды вялікая магчымасць, паколькі адзінства кантынента — гарантыя міру і стабільнасці ў Еўропе на трэцяе тысячагоддзе.

Аднак іншы раз мне здаецца, што важнасць еўрапейскага адзінства яўна недаацэньваецца ўплывовымі палітычнымі сіламі. Менавіта гэтым я тлумачу вядомыя захады, якія ствараюць пагрозу новага падзелу кантынента.

Думаю, лідэры краін, ужо запрошаных у НАТО або тых, што дабіваюцца гэтага, не пакрыўдзяцца, калі я скажу, што аб'ектыўных прычын для пашырэння Паўночна-Атлантычнага блока не існуе.

Пагрозы агрэсіі ў Еўропе няма і не прадбачыцца. Адпаведна і ваенна-палітычная структура, асноўнае прызначэнне якой — абарона ад агрэсіі, па логіцы павінна была б не пашырацца, а скарачацца.

Відаць, маюць рацыю тыя эксперты на Захадзе і Усходзе, якія лічаць асноўнай прычынай пашырэння альянсу імкненне замацаваць вынікі перамогі ў "халоднай вайне".

Наша прынцыповая пазіцыя застаецца нязменнай, але мы з павагай ставімся да суверэннага права кожнай дзяржавы далучацца да любых саюзаў. Будучы рэалістамі, гатовы актыўна працаваць над тым, каб выхад альянсу на нашы граніцы не ператварыў іх у лінію недаверу і напружанасці.

Заключаныя Расіяй і Украінай пагадненні з НАТО, якія ўмацоўваюць меры даверу і ставяць бар'еры на шляху прасоўвання на ўсход войскаў, узбраенняў і ваенных інфраструктур, аб'ектыўна адпавядаюць і інтарэсам нашай краіны.

У той жа час Беларусь, чыя заходняя граніца становіцца граніцай з НАТО, мае цвёрды намер агаварыць адпаведныя ўмовы сваёй бяспекі ў аналагічным пагадненні з Паўночна-Атлантычным блокам. Такая работа ўжо вядзецца, але мы лічым, што яна павінна ўжо ўваходзіць у завяршальную стадыю.

Думаю, у падпісанні такога пагаднення з Беларуссю не менш за нас павінны быць зацікаўлены НАТО і запрошаны туды наш бліжэйшы сусед — Польшча.

Жыццё, у тым ліку і міжнароднае, мае асаблівасць: вялікія трагедыі пачынаюцца з малых непаразуменняў. Таму мы павінны пазбегнуць захадаў, якія могуць выклікаць узаемны недавер, падазронасць, забяспечыць поўную празрыстасць па абодва бакі граніц.

У сферы бяспекі ёсць яшчэ адна праблема, якая не вырашаецца з-за таго, што некаторыя нашы партнёры яшчэ не поўнасцю адмовіліся ад стэрэатыпаў "халоднай вайны". Гэта пытанне аб стварэнні ў нашым рэгіёне прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі.

Гэта ідэя зусім не новая. І на нашым кантыненце ў 50-я гады былі спробы зрабіць цэнтр Еўропы свабодным ад ядзернай зброі. Але ва ўмовах блокавага процістаяння, узаемнай варожасці і падазронасці гэта ідэя была асуджана на правал.

З заканчэннем "халоднай вайны" з'явілася рэальная магчымасць зрабіць наш рэгіён назаўсёды свабодным ад ядзернай зброі.

У Цэнтральнай і Усходняй Еўропе няма неабходнасці ў ядзернай зброі як сродку стрымлівання, паколькі ні адна з краін кантынента не з'яўляецца патэнцыяльным агрэсарам.

Заява альянсу аб тым, што ён не збіраецца сёння размяшчаць ядзерную зброю ў Цэнтральнай Еўропе — гэта, безумоўна, крок у правільным напрамку. Але крок гэты юрыдычна ніяк не замацаваны, і таму ў любы час і пад любой маркай можа быць зроблены крок або два крокі назад. Такім чынам, бяз'ядзернасць цэнтра кантынента не гарантуецца, а ставіцца ў залежнасць ад палітычнай кан'юнктуры.

Я хацеў бы, паважаныя ўдзельнікі канферэнцыі, заклікаць вас аб'ектыўна ацаніць той новы ўзровень нашай агульнай бяспекі, які можа быць устаноўлены пры дагаворным замацаванні бяз'ядзернага статусу нашага рэгіёна.

Мы, беларусы, маем поўнае маральнае права быць настойлівымі ў гэтым прынцыповым пытанні. Менавіта Беларусь першая і без усякіх таргоў адмовілася ад правоў уласнасці на вялікія ядзерныя арсеналы, атрыманыя ёю ў спадчыну ад Савецкага Саюза, і вывела са сваёй тэрыторыі ядзерныя ракеты.

Павінен сказаць вам шчыра: насельніцтва, палітычная эліта Беларусі са здзіўленнем і расчараваннем успрымаюць пазіцыю тых дзяржаў, якія, з аднаго боку, вітаюць вывад з Беларусі ядзерных ракет, а з другога, не хочуць браць на сябе юрыдычныя абавязацельствы не размяшчаць на сваёй тэрыторыі ядзерную зброю. Думаю, вы згодзіцеся, што такая двайная мараль не садзейнічае развіццю ўзаемнага даверу.

На жаль, кан'юнктурны, двайны падыход — гэта з'ява распаўсюджаная і праяўляецца яна не толькі ў ваенна-палітычнай сферы.

Адзінства Еўропы можа быць даўгавечным толькі ў тым выпадку, калі нашы адносіны будуць грунтавацца на прынцыпах справядлівасці. Але справядлівасць немагчымая там, дзе, каб дагадзіць нацыянальнаму або групаваму эгаізму, практыкуюцца двайныя стандарты.

Мы, беларусы, на сабе адчуваем двайны стандарт, калі, каб дагадзіць пэўным геапалітычным установкам, нашу краіну спрабуюць паказаць як "востраў камунізму і дыктатуры ў цэнтры Еўропы, дзе адсутнічаюць свабоды і парушаюцца правы чалавека".

Паток скаардынаванага інфармацыйнага націску, хлусні і паклёпу становіцца рэальнай перашкодай на шляху развіцця добрасуседскіх адносін. Практычна ўсе, хто з Захаду і Усходу прыязджаюць у Беларусь, здзіўляюцца розніцы паміж тым, якімі нас паказваюць і якімі мы з'яўляемся на самай справе.

Тут хачу з поўнай адказнасцю заявіць, што сёння Беларусь:

— гэта дзяржава, дзе няма міжэтнічных і міжрэлігійных канфліктаў, дзе ўсе грамадзяне незалежна ад іх нацыянальнасці, перакананняў карыстаюцца роўнымі правамі;

— гэта дзяржава, дзе прымаюцца меры па рэальнаму забеспячэнню ўсяго спектра правоў чалавека, і перш за ўсе правоў на жыццё, на працу;

— гэта дзяржава з высокаразвітой эканомікай, адкрытай для міжнароднага супрацоўніцтва, якая ідзе шляхам прадуманых рэформ і пазбегла дзікай прыватызацыі, разбурэння і разграблення таго, што стваралася працай многіх пакаленняў.

Інфармацыйная прастора Беларусі, магчыма, адна з самых адкрытых у рэгіёне. Але, на жаль, гэта нярэдка спрабуюць выкарыстаць у нядобрых мэтах.

Мы за свабоду слова, свабоду друку. Аднак гэтыя свяшчэнныя паняцці не маюць нічога агульнага з дыфамацыяй, абуральна агрэсіўнымі дзеяннямі некаторых замежных СМІ на нашай тэрыторыі. У гэтай сітуацыі мы дзейнічалі і будзем дзейнічаць строга на аснове нашых законаў.

Зразумела, як і ў любой іншай дзяржаве пераходнага перыяду, у Беларусі шмат вельмі сур'ёзных праблем. Ёсць яны і ў такой тонкай сферы, як захаванне правоў чалавека.

Аднак па асноўных гуманітарных і іншых крытэрыях Беларусь поўнасцю адпавядае тым патрабаванням, якія прад'яўляюцца членам еўрапейскай сям'і народаў.

Да гэтай высновы прыйдзе любы чалавек, які задасца мэтай аб'ектыўна ацаніць сітуацыю ў нашай краіне. Але, відаць, менавіта гэтага — жадання непрадузята ацаніць сітуацыю — не хапае тым, хто паставіў мэту ператварыць Беларусь у нейкага ізгоя.

Аналізуючы прычыны такіх адносін некаторых дзяржаў і палітыкаў да Беларусі, мы прыходзім да высновы, што трапілі ў разрад непажаданых галоўным чынам за імкненне да інтэграцыі, перш за ўсё з Расіяй.

Тут зноў жа ў наяўнасці "двайны стандарт" — інтэграцыя на Захадзе ацэньваецца толькі станоўча, а інтэграцыя на Усходзе, у нашым рэгіёне, — толькі адмоўна.

Між тым інтэграцыя — гэта універсальны інструмент, на які ў аднолькавай ступені маюць права народы як на Захадзе, так і на Усходзе кантынента. У канцы дваццатага стагоддзя яна стала тым лакаматывам, які забяспечвае прагрэс у эканамічнай, навукова-тэхнічнай, гуманітарнай і іншых галінах.

Натхняльныя дасягненні Еўрапейскага Саюза, членамі якога з'яўляюцца або хочуць стаць (і, спадзяюся, стануць) дзяржавы, чые кіраўнікі прымаюць удзел у гэтай сустрэчы, уключаючы і нашу Беларусь, — наглядны таму прыклад.

Але паглядзіце, якую негатыўную хвалю выклікалі і працягваюць выклікаць ініцыятывы Беларусі па збліжэнню з Расіяй, па развіццю інтэграцыйных працэсаў на постсавецкай прасторы.

Пытанне гэта прынцыповае, і яно застанецца такім у агляднай перспектыве. Таму дазвольце мне выкласці вам свой погляд на яго вырашэнне.

Першае, і магчыма самае галоўнае, — гэта тое, што інтэграцыя на постсавецкай прасторы непазбежная, паколькі гэтага хочуць мільёны і мільёны людзей. І як бы ні спрабавалі стрымліваць, кампраметаваць жаданне народаў, якія жылі адзінай сям'ёй не адну сотню гадоў, яны зноў будуць разам.

Другое — яднанне народаў, тут я маю на ўвазе перш за ўсё беларускі і расійскі народы, будзе адбывацца ў цывілізаваных формах.

Свабода перамяшчэння, абмену інфармацыяй, рэсурсамі будзе спалучацца з захаваннем кожным народам сваіх суверэнных правоў. На парозе трэцяга тысячагоддзя пара ўжо адмовіцца ад ранейшых страхаў і забабонаў, калі любое збліжэнне народаў на Усходзе разглядалася як патэнцыянальная пагроза чыім-небудзь інтарэсам, як "пачатак адраджэння імперыі".

Наадварот, інтэграцыя, аб'яднанне намаганняў дапамогуць нам хутчэй пераадолець крызісныя з'явы ў эканоміцы, сацыяльнай і іншых сферах.

Возьмем наш Саюз з Расіяй. Ужо сёння мільёны беларусаў і расіян карыстаюцца дабротамі, якія адкрывае перад імі збліжэнне дзвюх краін: гэта і адзіная мытная прастора, гэта поўная свабода перамяшчэння і выбару месца жыхарства, гэта і роўныя правы ў працаўладкаванні, медыцынскім абслугоўванні, і многае іншае.

Скажыце: што ў гэтым дрэннага і дзе тут пагроза чыім-небудзь інтарэсам?

Назелажна ад таго, падабаецца гэта каму ці не, Саюз Беларусі і Расіі будзе развівацца. Ён грунтуецца на тых жа прынцыпах, што і Еўрапейскі Саюз. Але, зразумела, мы не павінны і не будзем поўнасцю капіраваць мадэлі іншых рэгіянальных аб'яднанняў.

Своеасаблівасць беларуска-расійскага Саюза ў тым, што ён абапіраецца на шматвяковы вопыт сумеснага жыцця нашых народаў.

Міжэтнічную і міжканфесіянальную згоду, адсутнасць тэрытарыяльных і іншых сур'ёзных спрэчак з суседзямі мы разглядаем як добрую перадумову стварэння вакол Беларусі "пояса добрасуседства".

Вядома, мы не закрываем вочы на пэўныя цяжкасці ў адносінах з некаторымі нашымі суседзямі. Недапушчальна, калі на тэрыторыі дзяржаў рэгіёна арганізацыі або асобныя людзі вядуць дзейнасць, накіраваную на насільнае звяржэнне існуючай у іншых дзяржавах законнай улады. Але сам працэс пераадолення гэтых і іншых праблем, я ўпэўнены, стане шляхам да новага ўзроўню даверу і ўзаемадзеяння.

Важнейшым кампанентам добрасуседства мы лічым эканамічнае супрацоўніцтва, якое, шчыра кажучы, магло б развівацца больш дынамічна.

У прадстаўленых у гэтай зале дзяржаў ёсць сур'ёзныя агульныя эканамічныя інтарэсы. За многія дзесяцігоддзі ў нашых краінах былі створаны ўзаемазалежныя вытворчасці і цэлыя напрамкі гаспадарчай дзейнасці, вострая патрэба ў якіх адчуваецца і цяпер. Іх развіццю проста неабходна надаць новы імпульс.

Вялікі патэнцыял умацавання эканомікі рэгіёна заключаецца ў прыгранічным гандлі, у стварэнні моцных рэгіянальных эканамічных зон. Дзяржавы нашага рэгіёна маглі б каардынаваць сваю палітыку ў сферы банкаўскага транзіту, кансультатыўных паслуг па ўсходняму рынку.

Адносна новым і выключна прадукцыйным інструментам эканамічнага супрацоўніцтва становяцца прыгранічныя праграмы "Буг" і "Нёман". Мы за тое, каб "еўрарэгіёны" перамясціліся далей на ўсход, на нашы рубяжы з Латвіяй, Літвой, Расіяй і Украінай.

Інтэрнацыяналізацыя нашага жыцця прывяла да ўтварэння цэлага пласта праблем, якія ні адна дзяржава не можа вырашыць паасобку. Я гавару аб новых выкліках нашай агульнай бяспецы: міжнародным тэрарызме, арганізаванай злачыннасці, наркабізнесе, кантрабандзе ядзерных і іншых небяспечных матэрыялаў.

Агульным пажыўным асяроддзем для ўсіх гэтых з'яў становіцца незаконная міграцыя. Па вырашэнню гэтай праблемы мы актыўна супрацоўнічаем з Літвой, іншымі краінамі. Але пытанне гэта па сваёй прыродзе такое, што можа быць вырашана толькі на шматбаковай аснове. Таму я заклікаю кіраўнікоў прадстаўленых тут дзяржаў да хутчэйшай распрацоўкі і заключэння адпаведнага рэгіянальнага пагаднення.

Улічваючы тое, што Беларусь, некаторыя іншыя краіны нашага рэгіёна становяцца своеасаблівым "фільтрам" на шляху нелегальнай міграцыі з Усходу на Захад, нашы намаганні павінны атрымліваць больш прыметную міжнародную фінансавую і матэрыяльную падтрымку.

Паважаныя ўдзельнікі канферэнцыі!

Беларусь надае вялікае значэнне пытанням фарміравання на еўрапейскім кантыненце ў цэлым і ў рэгіёне Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў прыватнасці ўстойлівай сістэмы бяспекі. Можаце быць упэўнены, што Рэспубліка Беларусь была, ёсць і будзе вашым надзейным партнёрам у вырашэнні агульнаеўрапейскіх і рэгіянальных праблем.

На заканчэнне дазвольце яшчэ раз пажадаць канферэнцыі паспяховай работы.

Лічу, што сустрэчы, падобныя на гэту, павінны стаць рэгулярнымі. Упэўнены, што любая з дзяржаў рэгіёна, прадстаўленых тут, у тым ліку і Беларусь, з задавальненнем прыме канферэнцыю ў наступным годзе.

Дзякуй за ўвагу.

ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ





# СВЯТА НАШАЙ ДУХОЎНАСЦІ

Сёлета свята пасля Полацка, Турава і Навагрудка адбылося ў старажытным Нясвіжы. Менавіта тут у 1562 годзе была заснавана і дзейнічала адна з першых друкарань, у якой Сымон Будны выпусціў у свет на беларускай мове адзін з каштоўнейшых першадрукаў — кнігу "Катэхізіс". Акрамя таго, гісторыя Нясвіжа непарыўна звязана з імёнамі шматлікіх прадстаўнікоў магутнага роду Радзівілаў, якія ўладарылі тут з 1533 года і нямала зрабілі дзеля беларускай асветы і культуры.

Сёлетняе свята было прысвечана знамянальнай даце — 480-гадоваму юбілею беларускага кнігадрукавання, што вядзе свой адлік ад часу выдання "Псалтыра" Францішкам Скарынам. З гэтай нагоды напярэдадні свята ў мясцовым краязнаўчым музеі прайшлі "Нясвіжскія чытанні", удзел у якіх прынялі вядомыя вучоныя-скарыназнаўцы. Разам з імі традыцыйна напярэдадні свята навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святыняў". Увесь шлях разам з экспедыцыяй прайшла Нязгасная лампада Духоўнасці з Жыватворным агнём ад Труны Гасподняй — своеасаблівы сімвал свята.

Менавіта з прыбыццём яе ў Нясвіж 7 верасня ля помніка Сымону Будному і адбылося ўрачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства і друку.

Гасцей і ўдзельнікаў сабралася не менш як 5—6 тысяч: прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, мясцовых улад, замежных пасольстваў і духавенства, дзеячы культуры, дэлегацыі з суседніх абласцей рэспублікі і раёнаў і, канешне ж, жыхары Нясвіжа. Прывітанне ўдзельнікам свята даслаў Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка.

На замкавым падвор'і разгарнуўся кніжны кірмаш. Аматары маглі пазнаёміцца з кнігамі, што пабачылі свет у розных беларускіх выдавецтвах, а таксама зрабіць пакупку. Тут жа іграла старадаўняя музыка. У старым княжацкім парку гаманіла свята дзіцячай кнігі "Напісанае застаецца". Гучалі музыка і песні, праводзіліся віктарыны і конкурсы, выступаў батлеечны тэатр. Побач юныя архітэктары трох гарадскіх школ будавалі замкі з пяску — Мірскі, Навагрудскі, Нясвіжскі, ішоў збор кніжак у дабрачынную бібліятэку.

Жадаючых унесці свой уклад у высакародную справу сабралася цэлая чарга. На кожнай прынесенай кнізе ставілася святочная пячатка, а таксама імя і прозвішча яе былога ўладальніка, які ўзамен атрымліваў "Залатую скрыжаль" — маляўнічую грамату з падзякай за ўдзел у справе дабрачыннасці. Меркавалася, што сабраная бібліятэка налічыць не менш як 400 экземпляраў кніжак, што будуць перададзены ў адзін з дзіцячых дамоў.

Суседняя дарожка старога парку клікала на кірмаш. Сапраўды была шчодрая "Нясвіжская багатуха!" На ўпрыгожаных гронкамі рабіны і кветкамі і запрэжаных конікамі фурманках у дбайных гаспадароў чаго толькі не было! Кірмаш — адно слова. Без песень ды танцаў, забаў розных ды гульняў з жартамі таксама не абышлося.

...Аж да самай ночы балявоў стары Нясвіжскі парк, гучала музыка, пырскалі над возерам рознакаляровыя агеньчыкі феерверку.

Свята ж тым часам ужо збіралася ў новую вандроўку. Будучай восенню яго сустрэне слаўны горад Орша.

НА ЗДЫМКАХ: Дзень беларускага пісьменства і друку ў Нясвіжы.





Фота Юрыя ЗАХАРАВА.

НАМ ПІШУЦЬ

# ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКАЙ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ Ў ЛОНДАНЕ

10 жніўня 1997 года ў царкве святых апосталаў Пятра і Паўла была адслужана святая літургія і ўдзячны малебен з удзелам беларускіх святароў з Бацькаўшчыны з нагоды 50-годдзя (залаты юбілей) заснавання ў Лондане Беларускай каталіцкай місіі. Царква была перапоўненая прыхаджанамі і гасцямі. Малебен пачаўся ў 10.30. Малебен служыў рэктар місіі айцец Надсон разам з шасцярымі святарамі, якія прыбылі з Беларусі. Малебен служыўся на роднай беларускай мове. З рэлігійнай пропаведдзю выступіў айцец Ян Матусевіч з Мінска. Ён патрыятычнымі словамі заклікаў веруючых маліцца да ўсемагутнага Бога, каб Бог злітаваўся над народам і вярнуў яму і павагу да сябе і Бацькаўшчыны, і любоў да Бога.

Пасля літургіі быў адслужаны ўдзячны малебен за місію і Беларусь. Малебен скончыўся спяваннем рэлігійнага гімна "Магутны Божа, Уладар Сусвету". Айцец Надсон запрасіў прысутных на прыняцце і спатканне з гасцямі з Беларусі. Спатканне адбылося ў зале пры бібліятэцы Ф. Скарыны. Зала была перапоўнена вернікамі і гасцямі, дзе ў сяброўскай атмасферы гучалі беларуская і англійская мовы... Прывітальнае слова ўзяў айцец Надсон. Ён ад імя місіі вітаў прысутных святароў з Бацькаўшчыны і падзякаваў ім, што нягледзячы на розныя цяжкасці, яны змаглі прыехаць, каб адсвяткаваць разам з дыяспарай такую важную гадавіну для беларускай каталіцкай місіі тут, у Лондане.

Айцец Надсон падзякаваў гасцям і прыхаджанам за ўдзел у сьвяце і коратка ўспомніў гісторыю місіі. Заснавальнікам місіі былі ў 1947 годзе св. п. айцец Чэслаў Сіповіч і айцец Леў Гарошка. Першым рэктарам стаўся айцец Ч. Сіповіч, які пазней быў высвечаны на біскупа і назначаны Ватыканскім візітатарам для беларускіх католікаў свету. Яго месца як рэктар місіі заняў св. п. Л. Гарошка. Пасля смерці св. п. а. Гарошкі рэктарам назначаны св. п. а. Гармановіч, пасля св. п. а. Журыя, а цяпер а. А. Надсон, які акрамя рэктара місіі, выконвае абавязак Ватыканскага візітатара для беларускіх католікаў свету.

Каталіцкая місія ў Лондане заўсёды была і ёсць цэнтрам беларускасці ў Англіі. Там, незалежна ад веравызнання, кожны беларус вітаецца з адкрытымі рукамі. Віншаванні місіі і яе рэктару выказалі: ад англа-беларускага таварыства сп. Г. Пікарда, ад Грэка-каталіцкай царквы на Бацькаўшчыне а. Я. Матусевіч, ад ЗБВБ яе старшыня спадарыня Л. Міхалюк, ад прыхаджан спадарыня В. Рыч. Яна ўспомніла час, калі яны з сваёй маткай у хвіліну маральнай патрэбы атрымалі духовы прытулак ад біскупа Ч. Сіповіча.

Прысутныя паднялі кілішкі віна і заспявалі рэктару місіі а. Надсону "Многая лета".

Прыемна было быць прысутным на такой важнай гадавіне і бачыць, што, нягледзячы на розныя перашкоды, дыяспара не забываецца пра лёс сваёй Бацькаўшчыны.

С. БУДКЕВІЧ.

Англія.

# АДСЮЛЬ ПАЧАЛІСЯ ЯГО ДАРОГІ

***Уладзіміру СОДАЛЮ — 60 гадоў***

13 верасня беларускаму літаратуразнаўцу Уладзіміру Содалю споўнілася 60 гадоў.

У сваім інтэрв'ю жлобінскай раённай газеце ён успамінае: "Нарадзіўся ў вёсцы Мормаль Жлобінскага раёна 13 верасня 1937 года. Паводле матчыных слоў, быў гром, капалі бульбу, ды яшчэ ў гэты год былі вялікі сталінскі хапун... У маленстве шмат разоў мог загінуць, але лёс ашанаваў. Цяжкае вясковае пасляваеннае жыццё ўвесь час рухала думку, каб вырвацца з гэтай галечы, з гэтай беспрасветнасці, з жабрацтва. Тагачасная рэчаіснасць змушала многіх з нас да ранняга сталення. Гадаваліся мы без бацькоў, жылі ў зямлянках, харчаваліся, як патрапіць".

Сёння, праз шмат дзесяцігоддзяў пасля расстання з малой радзімай, Уладзімір Ільіч у адным з апошніх лістоў да аўтара гэтага артыкула засведчыў: "Мяне ведае ў Мормалі цяпер мала хто, толькі старэйшыя. Шмат тут жыве людзей з усяго божага свету. Мормаль ужо мой і не мой... І прырода тут ужо не тая. Высеклі дрэвы, асушылі балоты. Зніклі шматлікія азярынкі, паплавы, затокі і тоні. І найбольшы мой боль — зніклa мормальская рачулка... парасла травой. А я ж яе помню метраў на пяць-сем ушыркі і паўнаводнай, і рыбнай... Чаму гэта мне, а нікому іншаму так шчыміць за лёс рачулкі майго маленства? Нядаўна мне мама расказала: калі я быў маленькі, хварэў на коклюш. Коклюш забіваў мяне, і тады ёй падказалі занесці мяне да рэчкі і пасадзець са мною над вадой — і кашаль адхліне. І яна насіла, і неяк разам з рэчкай выхадзіла мяне. То як жа мне быць абыякавым да рачулкі... З трыма вялікімі ранамі з радзімы — за школу (маецца на ўвазе старая школа, якая сёння разбурана), за млын (яго яшчэ будаваў дзед пісьменніка Павел) і рачулку я сустракаю свае шасцідзесяцігоддзе".

Але, успамінае яшчэ Уладзімір Ільіч, "...ад майго колішняга Мормаля ацалела яшчэ... ціхая-ціхая, паблізу старой школы вулачка. Якраз на ёй я і нарадзіўся. Адсюль пачаліся ўсе мае дарогі".

Мы, канешне, не можам не задацца пытаннем: пры якіх абставінах Уладзімір Содаль пачаў пісаць. Сам ён гэта тлумачыць так: "У першай палове пяцідзесятых гадоў у Мормальскай школе панавала якоесь незвычайнае захапленне друкам. У газеты пісаў шмат хто. Для нас было незвычайна атрымаць нават адказ з рэдакцыі. Вось на гэтай хвалі пачаў і я пасылаць свае допісы ў розныя выданні".

Не кінуў Уладзімір Содаль пісаць і пасля заканчэння школы, калі працаваў загадчыкам клуба і бібліятэкі. Пісаў ён дзёнікі, у раённы друк, у "Гомельскую праўду", "не раз турбаваў і мінскія газеты". Канешне, пісаў і вершы. Ды, як гэта звычайна ў такой сітуацыі бывае, дапісаўся. За праўду і прынцыповасць мясцовае начальства проста выжыла яго з роднай вёскі. І падаўся малады хлопец у 1956 годзе аж у Мурманск і ўсю дарогу імкнуўся адказаць на пытанне: "Што я там забыў?"

І сапраўды Уладзімір Содаль на Поўначы не затрымаўся, вярнуўся ў родную Беларусь. У 1963 годзе скончыў Мінскі педагагічны інстытут, а з 1967 года яго жыццё цесна звязана з Беларускім тэлебачаннем.

І ўвесь гэты час Уладзімір Содаль па-ранейшаму працягваў пісаць. Але да першага асобнага выдання трэба было чакаць звыш дваццаці гадоў — да 1977 года, калі ўбачыла свет яго кніжка "Людзьмі звацца". Сам Уладзімір Ільіч тлумачыць гэта так: "Такія людзі, як я, не патрэбныя былі грамадству, якое рухалася да камунізму..."

У 1982 годзе выходзіць у свет яшчэ адна кніжка — "Пуцявінамі сейбіта" (пра Янку Купалу). Але зноў жа як першае, так і другое выданне мала хто чытаў на Беларусі. Абедзве кніжкі выдала газета "Голас Радзімы", і яны пайшлі за мяжу да суайчыннікаў.

Мы ўжо згадалі пра Янку Купалу, але асноўную сваю ўвагу, як гісторык літаратуры, Уладзімір Содаль аддае другому класіку беларускага мастацкага слова — Францішку Багушэвічу. Больш таго, Уладзіміра Содаля сёння можна смела назваць буйнейшым даследчыкам жыцця і творчасці гэтага пісьменніка. Сведчаць пра гэта кніга-альбом "Францішак Бенядзікт Багушэвіч (1986), "Кушлянскі кут" (1990), "Сцежкамі Мацея Бурачка" (1990), "Жупранская старонка" (1991), іншыя. Уладзімір Содаль таксама быў укладальнікам кніг Ф. Багушэвіча "Мая дудка" (1987), "Каму дудка паслушна..." (1990), "Творы" (1991).

Значнае месца ў жыцці Уладзіміра Содаля займае тэлебачанне. Сёлета спаўняецца трыццаць гадоў, як ён мае непасрэднае дачыненне да гэтай няпростай, але цікавай і захапляльнай справы.

У тым, што Уладзімір Ільіч трапіў на тэлебачанне, ёсць свая выпадковасць і заканамернасць. "Тэлевізіі патрэбен быў стыліст, — сведчыць Уладзімір Содаль у артыкуле "На службе ў дзесятай музе". Вось мяне і ўзялі на гэтую пасаду. Адрэкамендавалі як добрага знаўцу мовы..."

Вельмі хутка Уладзімір Содаль зразумеў, што ён родную мову "ведае прыблізна". Але не разгубіўся, а пачаў больш патрабавальна ставіцца да сябе, удумліва даследаваць роднае слова. У выніку Уладзіміра Содаля сёння ведаюць і паважаюць як аднаго з самых аўтарытэтных знаўцаў, скажам так, таямніц беларускай мовы. Акрамя ўсяго, пісьменнік стаў стваральнікам папулярнай тэлеперадачы "Роднае слова", ганарыцца ён і цыклам перадач "Гаворым па-беларуску".

Родная мова для Уладзіміра Ільіча — гэта яшчэ і боль. Ён нястомна ўсюды паўтарае словы Францішка Багушэвіча: "Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людзям... Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"

Зразумела, што разам з мовай Уладзімір Ільіч актыўна прапагандуе на тым жа тэлебачанні жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў. Так з'явіліся навукова-папулярныя тэлеперадачы "Сірочы хлеб" Янкі Брыля, "Паўлюк Багрым", "Ад імя народа" — пра Францішка Багушэвіча, "Стану песняй у народзе" — пра паэтэсу Алаізу Пашкевіч (Цётку), іншыя. Яны з году ў год ідуць на экране.

А колькі Уладзімірам Содалем падрыхтавана розных кінасюжэтаў! Сярод іх — пра Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Пімена Панчанку, Уладзіміра Караткевіча, шмат каго іншага.

І традыцыйнае на заканчэнне пытанне: якімі творчымі планамі жыве зараз Уладзімір Содаль? Адказ такі: "Па-ранейшаму жыву Багушэвічам. Шмат чаго ёсць расказаць пра гэтага бясcрэбніка. Мару напісаць гісторыю беларускага кнігарня..." Шмат у нашага земляка іншых задум, але ён пры гэтым не стамляецца паўтараць: "Жыву без зайздрасці, без скваплівасці, без прагі да грошай. І радуюся за творчыя поспехі калегаў, за іх плён не дзеля сябе, а дзеля Беларусі".

**Мікола ШУКАНАЎ.**

## *АДКРЫТЫ БЮСТ МАСТАКА*




**У Магілёве адкрыты бюст народнага мастака Беларусі, ураджэнца Магілёўшчыны Паўла Масленікава. У скверы каля абласнога мастацкага музея, названага імем жывапісца, прайшла ўрачыстая цырымонія адкрыцця бронзавага партрэта, зробленага па праекту вядомага беларускага скульптара Уладзіміра Летуна.**

**НА ЗДЫМКУ: бюст Паўла МАСЛЕНІКАВА.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

## З паэтычнага сшытка

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

* * *

**Аблятаюць клёны,**
**аблятаюць...**
**Журавы кудысьці**
**адлятаюць,**
**І на сэрцы**
**нейкі непакой...**

**Мо таму,**
**што клёны аблятаюць,**
**Мо таму,**
**што птушкі адлятаюць,**
**І так ціха стала**
**над ракой!**

**Ну а можа гэта**
**не прычына,**
**А лягла на сэрца**
**аблачына,**
**Бо так мала зроблена**
**ў жыцці!**

**Ну а мо і гэта**
**не прычына,**
**А прычынай**
**нейкая дзяўчына,**
**Лепей за якую**
**не знайсці...**

* * *

**Восені чароўная пара...**
**Першыя туманы над**
**ракою...**
**І пяро заўсёды пад рукою...**
**І бруяцца вершы з-пад**
**пяра...**

**І, нібы лісткі календара,**
**Першыя лісткі сышлі**
**з галінак...**
**І ўзлятаюць ніткі павуцінак...**
**І бруяцца вершы з-пад**
**пяра...**

# «У ДАБРО — ЯШЧЭ ЎСЁ ВЕРУ»

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

**Прылаўкі**
**З мясам тухлым —**
**і без мяса.**

**І Радзівіл**
**Заўсёды ёсць ва ўладзе,**
**Не важна,**
**Што пры іншай ён пасадзе.**

Складаная, няпростая, відавочна, і па аўтарскай задуме, і па выкананню паэма-прытча "Леснічоўка". А хіба калі лёгка і проста было пісаць пра родную, знаёмую з дзяцінства старонку?!

Астатняя, без паэм, частка кнігі падзелена наступным чынам. "Старая званіца" — сабраныя разам вершы апошняга часу. "Карадаг" — паэтычная вандроўка ў Крым. "Пульсары" — фрагменты, імгненні паэтычнага мыслення. "Коні на манежы" — пераклады з рускай, татарскай, курдскай, латышскай, малдаўскай моў. "Эдэм без анёлаў" — тут і міні-байкі, і мініяцюры, і эпіграмы, і пародыі. Усё гэта сведчыць пра шматграннасць паэтычнага таленту Кастуся Жука, пра тое, што літаратар аднолькава настойліва працуе ў самых розных жанрах.

У раздзеле "Старая званіца", у творах, сабраных у яго межах, Кастусь Жук выяўляе сябе паэтам завострана-публіцыстычным.

**Цёмнай дарогай ідзе**
**не заўсёды злачынец.**
**Светлай дарогай ідзе**
**не заўсёды святар.**
**Служыць Айчыне не той,**
**хто клянецца Айчыне.**
**Верны бунтарству не той,**
**хто слыве як бунтар.**

Праўда, часам стамляешся ад напамінкаў аб "бязмоўнасці народа", "бяспраўнасці народа". Але ж, калі згадаць і класічную беларускую паэзію, то яе прастора якраз і скроена ў такіх тэматычных межах — бяспраўе, цемра, пакуты. Ужо нават эстэтыка гэтых з'яў сфарміравалася. Як выйсці з такога кола? Але ж адна, сама па сабе, паэзія няздольна на геройны ўчынак. Вось і Кастусь Жук пакутуе разам з жыццём, разам з рэчаіснасцю. Трымае ў памяці купалаўскае: "Дык вось, людцы, які Я мужык-беларус!" І спрабуе абвастрыць пытанне з пытанняў: "Што ж ты спіш, беларус?" Праўда, ёсць побач з трывогай і аптымізм, пэўная паэтычная вера.

З цікавасцю чытаюцца пераклады, якія Кастусь Жук сабраў у раздзеле "Коні на манежы". Але чамусьці паэт-перакладчык падкрэслівае, што чужыя тэксты пераўвасоблены, пераўтвораны ім: маўляў, "паводле Фёдара Сухава", "паводле Аляксандра Пракоф'ева" і г. д. Ведаючы (у прыватнасці, што датычыцца Сухава, Пракоф'ева, Дудзіна) творы паэтаў у арыгінале, усё ж адзначаеш блізкасць, паслядоўнасць работы перакладчыка. Дык чаму, навошта тады "паводле..."? З гэтай нагоды на памяць прыходзіць вызначальнае ліхачоўскае: "паводле" — гэта сваё, якое ўзнікла дзякуючы адкрыццю ў чужым. Пераклады — зусім іншае, гэта следаванне, дакладнае следаванне арыгіналу. Кастусь Жук у сваіх "паводле" знаходзіцца недзе паміж першым і другім пераканаммі. І ўсё ж — бліжэй да перакладаў. З асаблівай цеплынёй, мне здаецца, перакладзены вершы сялянскага паэта Фёдара Сухава. Вось радкі з аднаго з яго вершаў:

**Луг пасля касьбы — зялёна-рыжы,**
**Не сумуй, касец, пагодным днём, —**
**Паміраем мы усе, каб выжыць,**
**Каб памерці ў рэшце рэшт — жывём.**

Магчыва, цеплынёй дыхаюць гэтыя пераклады яшчэ і таму, што досыць блізкія вершы Фёдара Сухава і самому Кастусю Жуку.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## З РУКАПІСНАЙ СПАДЧЫНЫ ХВЕДАРА ІЛЬЯШЭВІЧА

М. ДАЛЬНЫ

# ВАСІЛЬ

## (АБРЫЎКІ ПОВЕСЬЦІ)

Пасьля танцавалі, хлапец і дзяўчына выбеглі сьмела з-за заслоны, пакланіліся публіцы й замёрлі, чакаючы спадарожнага такту. Васіль, зьнямеўшы, глядзеў. Гэта птушкі ўзьняліся ў высь неабмежную й там ляцелі адважным лётам, гэта матылі віліся над кветкамі ў сонцы... Танцоры разьбягаліся, як бы гневаліся, і ізноў неразлучна спляталіся ў вадным рытме, нястрымана беглі, плылі, узмахваючы рукамі нібы крыльлем, ногі іх ледзь дакраналіся зямлі...

Ах!

Цырк напоўніўся воплескамі й крыкамі захапленьня.

Увесь вечар у Васіля было дзіўнае перажываньне, яно недзе няяснымі парывамі й жаданьнямі бунтавала сэрца. Вось Васіль на асьветленай арэне — гнуткі й пераможны стаіць перад мястэчкам, а ўсё мястэчка выпаўзла на выган і глядзіць на яго. Ён танцуе. Усе крычаць, б'юць у далоні.

— Вось дык Васька!

І бацька сядзіць недзе там, дзівіцца-ненадзівіцца сыну — такі ж ён штукар спраўны!

Новыя нумары ізноў кружылі галаву, й трапятала сэрца на вышынях неабнятных, то абрывалася сполахам і жудой.

І даўно ўжо цырк выехаў з мястэчка, фурманкі завязьлі разабраную палатку, а ў закрытых вазох паехалі артысты.

Але з таго вечару пачалося іншае жыцьцё ў Васіля. Задумаў ён уступіць у такі цырк. Пачуў ён моц мастацкага руху й пачаў гэтую моц выпрабоўваць. Спачатку перад Грышкай.

— Глянь!

Васіль спрытна хапаўся за сук дрэва й прарабляў галаваломныя рухі.

— Ой, упадзеш, упадзеш! — крычаў спалоханы Грышка. Але Васіль, сьмяючыся, саскакваў з дрэва.

Ніколі раней не заўважаў Васіль, што ў мускулах схавана прыемнасьць і краса.

Паволі й вуліца даведалася аб штукарстве Васіля, й слава яго расла з кожным днём, асабліва сярод малых хлапцоў. У вуліцы пачалася эпідэмія насьледаваньня. Кожны з хлапцоў хацеў перавысіць адзін другога. Усё было вакарыстана — і жэрдкі, і дрэвы. Але першы Васіль дачуўся ад Грышкі аб турніку.

4

Пасьля вясеньняга зацішша, калі ўся вуліца гаманіла ў ціхія, сьветлыя вечары і пахла чаромхай і сьвежай зямлёй, прыйшлі гарачыя дні. І пачалася касьба.

У Паповым лузе ад самага раньня Васіль махаў касой, а калі стала прыпякаць, схаваўшы касу пад пакос, пайшоў выкупацца. Рака была недалеча. Скінуўшы адзежку, кінуўся ў ваду. Прахалода прыемна калола апаленую скуру й расплывалася ў целе. Выкупаўшыся, Васіль пад аслонай кустоў лёг на кашулі.

Зьвінела зямля...

Крыкі пастухоў, галасы касцоў і шолахі траваў таялі недзе ў неабмежным прасторы й ня было такога зыку, які б нарушаў гэты размроены летні канцэрт. Сьвежыя пахучыя пакосы й белыя воблачкі! Лянівa стаіць гарачае сонца. Расплываецца моцным віном у мускулах утома. Прыемна — сонна... Навокал травы й ціхі, трывожны іх шолах бяжыць у даль сенажацяў.

А Васіль спаў.

Разбудзіў яго штурханец. Схапіўшыся, Васіль разгледзеўся, але нікога ня было. Урэшце — з-за кустоў выйшаў Вайцех, знаёмы мястэчкавы хлапец.

— А, ты...

— Сэрвус, калежка.

Вайцех даў кляпса па голаму плячу Васіля, што азначала шчырае прывітаньне. Вайцех, сын сэйміковага стоража, быў ведамы ў мястэчку хуліган і садаўнік. Яго так і празывалі "абібокам". Няраз яму й бакі абівалі. Вечарамі, калі ў мястэчку спацэравала моладзь, ён зачапляў паненак, а каб атрымаць бязплатную адзежу, запісаўся ў "Стшэлец". Стуль яго выгналі, але ён ганарыўся салдацкай кашуляй.

Вайцех разьлёгся на траве, выцер пот рукавом і адпачываў. Некалькі рубцоў на яго васпаватым, але па-моднаму загарэлым твары сьведчыла аб буяных днёх і прыгодах.

Вайцех з задорам расказваў усялякія навіны, хочучы як бы парысавацца гэтым і падкрэсьліць — вось які я! а ты — што?

Ён паступае ў школу авіятараў. Адна бяда — ня мае скончанай пачатковай школы.

— Будзе з цябе лятун, як з мяне біскуп! — сьмяяўся Васіль. Ён памятаваў, як Вайцех у школе мазаў крэсла вучыцелькі сталярскім клеем, клаў на лаўкі калегаў пінэскі. Сядзеў ён па два-тры гады ўваднэй клясе.

— Што? пабачыш! — абурана бараніўся Вайцех. — Я ўжо гаварыў з студэнтам і буду з ім вучыцца, а пасьля здам экзамен. Я ведаю ўжо, які экзамен у той школе!

Вайцех урачыста абкруціўся разоў з шэсьць навакол сябе, а пасьля, выпрастаўшыся, прайшоўся, трымаючыся як мага проста.

— Вось экзамен увесь! — і тут ён выясьніў, што лятуны павінны мець моцнае сэрца й умець захоўваць раўнавагу.

Над чым задумаўся Васіль, гэта над плянам падарожжа ў Варшаву, у які пасьвяціў яго "калежка".

— У Гайнаўцы прычапіцца да якога таварнага цягніка — і фіуць!

Вайцех рукой паказаў даль.

— Колькі так езьдзіць людзей — дакінуў, заахвочваючы Васіля.

І не ў Амэрыку ўцёк Васіль.

Ноччу спаткаўся ён з Вайцехам за мястэчкам на ўмоўленым мейсцы на мосьціку. Спаў сьвет. А яны ішлі, і пад нагамі журчаў дарожны жвір.

Раніца спаткала іх на ўзьбярэжжы Белавежы. Пачынаўся лес, перадавая варта векавечнае пушчы. Дрэвы штораз гусьцелі, і ўрэшце неба над імі зрабілася такою ж істужкай, як шаша. Сонца хутка ўзьбягала на сосны й сыпала залацісты пыл на чупрыны вярхоў. Залататканыя рызы! Ісьці было добра. Прахалода й пахучая смала адганялі ўтому. Сьвет увесь так бы прайшлі!

Вялічавая, паважная цішыня віселa ў пушчы й зыкі птушак і конікаў выразнейшай рабілі немату задуменных сосен.

Думкі выбягалі наперад.

— Заедзем неяк, скокам-бокам, — пацяшаў Вайцех.

Кілямэтры сьцежак, травы й сосен.

— Есьці хочаш?

— А ты?

— Зьеў бы...

— Давай падмацуемся.

І цяпер толькі, калі селі, пачулася змора, як бы нехта сьцягнуў жылы й мускулы, ногі набягалі цяжарам дарогі.

Хутка й Гайнаўка!

Там знаёмыя хлопцы з мястэчка ў тартаку. Першы раз быў Васіль у тартаку, першы раз бачыў ён у пералівах сонца фантаны апілак у вадаспадах шуму.

І ў гэтым тартаку на ваганэтцы Васіль з Вайцехам вывозілі дошкі на тартачны двор, едучы праз цэлыя вуліцы штабляў. Праца была цяжкая й небясьпечная. Вагатэткі з блёкамі спатыкаліся й міналіся, пілы аглушалі, й можна было згубіцца ў гэтай завірусе.

— Ці ня лепш было б касой ваяваць? — няраз думаў Васіль.

Але паварот быў зачынены.

— Нам абы грошы атрымаць! Вядома, трохі грошы трэба мець — паабедаць дзе, вады содавай выпіць. У месьце горача ўлетку, ня тое, што ў нас, — гаварыў Вайцех.

Але Васілю здавалася, што большай сьпекі, як тут, нідзе ня можа быць.

Вечарком, калі яшчэ ў тартачным бараку ня спалі, выходзілі хлопцы на станцыю й прыглядаліся к таварным вагонам, наладаваным дрэвам. Так, ужо вядома цяпер, як рабіць. Перад адходам цягніка неўзаметкі праціснуцца між вагонамі й залезьці ў дрэва. Набраць ежы й чакаць ціха. Трэба было даведацца яшчэ, калі і куды цягнікі ад'яжджаюць.

І — урэшце! Яны едуць! Пявучыя шумы вабяць у далёкую дарогу.

Паціханьку, нясьмела адзываліся колы, як бы нейкі волат у ланцугох пачынаў свой танец. Гукі гатаваліся да палёту. Зрываліся адзін за другім — і цэлай стаяй нясьліся нястрымана ў лясныя прагаліны.

На станцыях трэба было пільнавацца, каб ня ўдарыла дрэва, калі станавіўся цягнік. Трэба было ціха сядзець, стуліўшыся ў кулёк. І радасна было, калі ізноў ішоў цягнік. Так паволі адрываўся ён ад рэек.

Ізноў радасна чупрынілі вярхі соснаў, як бы беглі за Васілём лясы ў далёкую, чужую старану.

Буйнымі, звонкімі ўдарамі ішлі гукі ў далёкі паход, а хлопцы шапталіся, стрымваючы радасьць, каб хто не пачуў іх.

— Аблава!

Цягнік раптам стаў, і ля вагонаў пачалася беганіна. Нейкі раз'юшаны твар высунуўся над пляцформай, і прад ім ня можна было схавацца.

— Злазь! С...

Хлопцы саскочылі й пабеглі ў кусты, чуючы за сабой лаянку кандуктара.

— Як пойдзе цягнік, ізноў чапляйся! — шаптаў, задыхаючыся Вайцех.

Васіль ня чуў, як разрывалася яго сэрца. Ён бег і бег. З-за кустоў відаць было, як кандуктары білі нейкага чалавека. А пасьля беглі з цягніком уздоўж вагонаў. За кустамі, разьбіваючы галінамі твар, спатыкаючыся на сукі й ялавец, беглі й хлопцы за цягніком. Усё хутчэй, усё хутчэй!

— Ну, цяпер!

Кандуктары паўлазілі ў будкі, й цягнік ішоў поўным ходам. Вайцех учапіўся за буфэр, а Васіль яшчэ бег.

— Каб хоць разам! каб хоць разам, — стукала ў галаве. Млелі ногі, й нехапала духу.

Вось Вайцех ужо сядзіць і едзе, а ён...

Два вагоны ўжо абмінулі яго.

— Цяпер мушу! — і Васіль, падбегшы трохі, падскочыў і ўхапіўся за дзьверы вагону, але нешта ўдарыла яго моцна, і ён кумільгом пакаціўся ўніз. Над ім нясьліся цяжкія вагоны, але ён ня чуў.

5

У самы гарачы час уцёк Васіль. Касьба была ў самым разгары. Бацька Васілёў, Язэп, стары ўжо быў, нядужы. А жонка ня тое што, каб не рабіла, але не магла на ўсе бакі разарвацца. Дабро, што сваякі падсабіць падыйшлі.

Спачатку бацька ня ведаў, што з Васілём. Прапаў — і годзе. Думаў ён і так, і гэтак. Можа дзе хлопец адлучыўся. Але прайшоў дзень, другі, а Васіля ня было. Непакоіцца пачаў стары, й шкада стала хлапца. А нуж утапіўся ці рукі налажыў на сябе. Але ж дачуліся б людзі, знайшлі б недзе.

Уся вуліца толькі й гаманіла пра Васіля. Дый што вуліца. І Файбэль, у якога браў махорку, ужо ведаў аб гэтым. Вечарам, сабраўшыся на лавачцы перад сном, замахораць мужчыны, гутарку вядуць. Далучыцца да іх і Язэп стары, але маўчыць ён, зрэдка слоўца кіне, бо крыўда яму на сына й перад суседзямі нялоўка.

— Ат, сабака ён ужо такі...

Дачуліся ўрэшце людзі, што і ў стоража сэйміковага хлапец згінуў. Вось і пачалі цяпер справу кумекаць, адно з другім зьвязваць.

— Няма што! Гэта яны разам кудысь змыліся. — Уцёк, падла! Не схацеў бацькаўскі хлеб есьці, — злосна барматаў Язэп.

Жонка якраз бульбу скрабала.

— А што? Мо ўчуў што? — спыталася з цікавасьцю, затрымаўшы нярухома руку з недаскрабанай бульбай.

— Эт! Што там учуеш. Кажуць, што і ў стоража сэйміковага хлопец уцёк. Значыцца, разам яны... Пэўне ж, райзэруюць недзе.

— Сына маеш! — з'ядліва з уданым спакоем заўважыла жонка. — У людзей сыны, як сыны, а гэты...

Язэп чуў, што пачынаецца сварка. Але ён маўчаў. Жончыны словы муцілі яго супакой і гнялі яго цяжкім раздум'ем.

Жонка ня вытрывала да канца спакойна юдзіць Язэпа, плачам прарвалася, прыгалошваць пачала.

— Абдарыў мяне Бог брадзягаю сухою. Марную я леты...

Доўга слухаў Язэп, сьціснуўшы зубы. Баба, вядома, выплачацца — лягчэй стане. Урэшце не сьцярпеў і ён.

— Сьціхні ўжо, — крыкнуў ён, — разыйшлася, языком, як траплом, меле. Што, я вінават? Гадаваў яго, як і ўсе людзі, паска не шкадаваў, а вырас вырадак.

Неяк сумна, ціха зрабілася ў хаце. Ці таму, што ня было тут яго, Васіля, віноўніка ўсяе сваркі, хоць і нялюбы ён быў — а ўсё ж вячэраць было б весялей.

— Я ж такі пакажу яму, што я бацька яго. І слухаць ён мяне павінен! — нарушыў урэшце цяжкое маўчаньне Язэп. У вачох яго бліснула ўпартасьць і рашучасьць.

— У паліцыю пайду! — дадаў ён. Знойдуць яго, з-пад зямлі выцягнуць!

І гэткай пастановай супакоіў сябе. Думкі аб Васілю ўжо не дакучалі. Павячэраўшы,ляглі спаць. Але ня спалася. Язэп варочаўся, уставаў закурыць, выходзіў на двор, але сон ня прыходзіў.

— Блохі, ці што, так тнуць, — барматаў Язэп, стараючыся заснуць.

Але думкі цяжкія, павольныя наплывалі з цемнаты й упарта трымаліся ў яго галаве.

Лежачы так, чуючы цяплыню жончынага цела, успомніў Язэп, што ў каморы схаваныя грошы. Няраз іх ён лічыў, дакідаў туды трохі або адымаў часам. А Васіль можа й падгледзеў!

Язэп схапіўся й нэрвова пачаў шукаць сернічкаў, каб засьвяціць лямпу.

— Так яно і ёсьць! Вось ты які, сынок! Добра, добра, няма што. Бацькавы грошы забраў і паехаў сабе, — гаварыў у думках Язэп.

Рукі дрыжалі, а шкло ніяк не пападала ў гарэлку лямпы.

— Чаго ты? — схапілася спалоханая жонка.

— Сьпі, сьпі, — як мага спакойна прамовіў Язэп, — пайду грошы гляну, — і, накінуўшы кажух, пасунуўся ў камору. Цень яго калматай дзівачнай фігурай мітусіўся на сьцяне, калі ён адгартаў жыта ў бочцы.

Урэшце — лёгкі ўздых супакоіў Язэпа. У жыце на дне бочкі стаяла скрыначка й — не! — ніхто яе не зачапаў. Ну, так. Асьцярожна выняўшы скрынку, Язэп увайшоў у хату, упэўніўшыся, ці засунены сені. Тут ён шчыльна завесіў вокны й сеў у кут пад абразамі, адвярнуўшыся да вакна плячыма. З скрыначкі выняў ён торбачку й паставіў асьцярожна на стол. Глуха забражджалі манэты. Выймаў Язэп манэты з нейкім пабожным настроем, аглядаў кожную з усіх бакоў, трымаў у руцэ, падсоўваў пад сьвятло лямпы й глядзеў доўга на пералівы золата. Пасьля паціхеньку прабаваў аб зубы, як прабуюць вялікодныя яйкі. Дробненькі стук быў падобны да дзёўбаньня курэй аб падлогу. Паволі ўкладаў Язэп манэту йзноў у мяшочак, і нейкая ціхая сьветласьць ацяняла худы васковы твар і няўхопнай усьмешкай разыходзілася па маршчынам.

**Працяг.**
**Пачатак у № № 36-37.**

# ПАДЗВІЖНІК

"Стары Рубон прачнуўся і зірнуў удалеч", — заўважаў у сваім вершы "Дзвіна", напісаным у Каханавічах, Ігнат Храпавіцкі. Маршалак дваран Дрысенскага павета і Віцебскай губерні твор, прызначаны для грамадска-літаратурнага, краязнаўчага часопіса "Рубон", які выдаваў яго сусед Казімір Буйніцкі з мястэчка Дагды, заканчваў так:

**Сцякае час — тут помняцца**
**людскія рукі,**
**Гучыць тут хор якісьці светлы**
**і тужлівы,**
**І доўга будуць зарастаць**
**лясамі нівы,**
**І вецер заглушаць усе чужыя**
**гукі.**

Уздыхаў "Рубон-старэча" і тады, калі ў 1918 годзе быў спалены двор Каханавічы, а разам са спадкамі Храпавіцкіх і вялізная бібліятэка з некалькіх тысяч тамоў белетрыстыкі на французскай, нямецкай і расійскай мовах, тамамі па гісторыі і вясковай гаспадарцы.

І ўсё ж цудам захаваліся ў Каханавічах сучаснага Верхнядзвінскага раёна могілкі з помнікамі І. Храпавіцкаму, яго жонцы Саламеі з Чаховічаў. Мясцовыя энтузіясты "ад ветразя, ад ліры, плуга", сённяшнія "гурты сыноў вясёлых", вырашылі ўшанаваць імя І. Храпавіцкага (31 ліпеня 1817 — 25 снежня 1893) — паэта, збіральніка і даследчыка фальклору Прыдзвіння. Бо ёсьць за што. Тэарэтычная праца рубонца "Погляд на паэзію беларускага народа" (1843) высока ацэнена вучонай Ліляй Салавей. А яе калега па рабоце ў Акадэміі навук Беларусі Арсен Ліс так адгукнуўся на подзвіг падзвіжніка з Каханавіч: "...гэты чалавек у 40-я гады мінулага стагоддзя, калі ў краі ўсё спала, закалыханае злавеснай рукой Мікалая Палкіна, у дваццаць з лішнім гадоў напісаў выдатнае даследаванне, у якім глыбока і пранікнёна, вачыма патрыёта глянуў на паэзію беларускага народа, шчыра падзівіўся з народнага генія, абяцаючы справай паслужыць, каб памножыць яго духоўныя набыткі..."

Стары Рубон Ігната Храпавіцкага са згаданага ўжо верша "Дзвіна" (пераклад з польскай В. Шніпа) жаліўся і спадзяваўся:

**Мінулыя гады бярвянілі мне**
**тоні**
**Пажарам замкаў, сёл —**
**і дым разносіў вецер,**
**Цяпер у іх спакойна ціхі месяц**
**свеціць.**
**Задумлівыя зоры плаваюць**
**ва ўлонні.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

# ПОШТА — ЮБІЛЕЮ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

7 верасня ў рэспубліцы адзначалася свята пісьменства і друку. І было яно прысвечана 480-годдзю беларускага кнігадрукавання. Да гэтай даты рэспубліканскае дзяржаб'яднанне "Белпошта" выпусціла серыю з 4 марак, прысвечаную полацкаму, кракаўскаму, пражскаму і віленскаму перыяду жыцця і дзейнасці беларускага першадрукара Ф. Скарыны.




На адной з мініяцюр — панарама старажытнага Полацка, герб горада (вядомы з XVI стагоддзя). Тут, у Полацку, прайшла маладосць Ф. Скарыны, тут ён атрымаў пачатковую адукацыю, адсюль выехаў у Кракаў працягваць свае "студыі". У цэнтры маркі паказаны помнік Ф. Скарыне, устаноўлены ў яго родным горадзе.

На наступнай мініяцюры — панарама старажытнага Кракава, герб горада, дзе ў 1504 годзе ў спісах універсітэта значыўся "Францыск із Полоцка". На філасофскім факультэце Кракаўскага універсітэта Скарына вывучаў сем вольных мастацтваў. У 1506 годзе, атрымаўшы ступень бакалаўра вольных мастацтваў, ён пакінуў Кракаў. У цэнтры маркі — рэпрадукцыя вядомага партрэта Ф. Скарыны па гравюры 1517 года з скарынінскай кнігі "Ісуса Сірахова" "Біблії рускай".

Варта адзначыць, што гэтая гравюра змешчана на марцы выпуску 20-х гадоў (дакладная дата не ўстаноўлена) у вядомай філатэлістам серыі "Беларусь". Калі ўважліва разгледзець гэтую марку, то можна заўважыць надпіс дробнай лацінкай "Францыск Скарына з Полацка. 1517—1917". Калі звярнуць увагу на гэтыя даты, то можна падумаць, што маркай адзначана 400-годдзе беларускага кнігадрукавання. І яшчэ такія даныя. Гэтая ж гравюра была змешчана на паштовым мастацкім канверце ў 1967 годзе, калі адзначалася 450-годдзе беларускага кнігадрукавання.

Аб пражскім перыядзе жыцця Ф. Скарыны паведамляе наступная марка серыі. У яе малюнку — від старой Прагі. У 1517 годзе Ф. Скарына адкрыў "в славном старом месте Празском" друкарню і за тры гады (1517—1519) падрыхтаваў і выдаў "Псалтыр" і 22 кнігі Старога запавету пад агульнай назвай "Библия руска выложена доктором Франциском Скориной из славного града Полоцька богу ко чти и людем посполитымъ к доброму научению". Гэтыя словы можна прачытаць на тытульным аркушы скарынінскай Біблії, які змешчаны ў цэнтры маркі.

Наступны важны этап у жыцці і выдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны праходзіў у Вільні. Тут у доме віленскага бургамістра Якава Бабіча і размясціў сваю друкарню Ф. Скарына. Гэта была першая вядомая сёння друкарня на былой тэрыторыі СССР. У ёй было надрукавана 2 кнігі: "Малая подорожная книжица" і "Апостол". На марцы паказана панарама старажытнай Вільні, герб горада, у цэнтры маркі — тытульны аркуш "Апостала".

У правай частцы кожнай маркі паказаны друкарскі станок Скарыны і яго кнігі, а таксама яго герб — сонца і месяц.

Да выхаду скарынінскай серыі марак быў выдадзены канверт "першага дня" з адлюстраваннем друкарскага станка, гербам Скарыны, старажытнымі кнігамі і юбілейным тэкстам. 7 верасня гэтага года на галоўнай пошце сталіцы Беларусі праходзіла спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі юбілейным штэмпелем. У яго малюнку герб Скарыны, раскрытая кніга і тэкст "480 гадоў беларускага кнігадрукавання". Мастак — М. Рыжы.

Беларускія філатэлісты атрымалі цудоўны падарунак да свята.

**Леў КОЛАСАЎ.**




# ІВАН ІВАНКОЎ – АБСАЛЮТНЫ ЧЭМПІЁН СВЕТУ



**На XXXIII чэмпіянаце свету па спартыўнай гімнастыцы, які прайшоў у Лазане (Швейцарыя), абсалютным чэмпіёнам свету стаў беларускі гімнаст Іван Іванкоў. Гэты тытул ён заваяваў другі раз, стаўшы двухразовым чэмпіёнам свету.**

**Акрамя "золата", наш славуты зямляк прывёз са Швейцарыі і "серабро" ў камандным мнагабор'і, а "бронза" яму дасталася ў практыкаваннях на кольцах.**

**НА ЗДЫМКУ: беларускі гімнаст Іван ІВАНКОЎ — двухразовы чэмпіён свету.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

# ЗЭЛЬВЕНСКАЯ «ЛІРА»

Чарговае пасяджэнне клуба аматараў паэзіі "Ліра" пры Зэльвенскай цэнтральнай раённай бібліятэцы было прысвечана мінуламу і сучаснасці Зэльвеншчыны. Пакой літаральна за гадзіну ператварыўся ў своеасаблівую галерэю карцін, малюнкаў, выставу выданняў і вырабаў землякоў.

Апавядаючы аб паходжанні назвы пасёлка Зэльва, мясцовая настаўніца Л. Сідорка зазначыла, што існуе некалькі версій, і найбольш верагодная — назва пайшла ад слова зялёны. Яна асобна спынілася на тым, чым ганарыліся нашы прашчуры, — Аненскім кірмашы, які па значэнню быў другім пасля Лейпцыгскага і праводзіўся традыцыйна з 1725-га штогод з 25 ліпеня па 25 жніўня. Дазвол на шырокі гандаль мелі князі Сапегі. Працвітанне іх роду непасрэдна звязана з Зэльвеншчынай. Паступова страчваліся традыцыі сусветна вядомых зэльвенскіх кірмашоў напрыканцы XIX стагоддзя. З кірмашом звязана шмат паданняў. Адно з іх пра цыганку Росіцу згадвалася тут.

Дарэчы, праз год наш пасёлак будзе адзначаць 740-годдзе з моманту першага ўпамінання аб ім у Іпацьеўскім летапісе.

Літаратурная Зэльвеншчына багатая на таленты. У былым фальварку Крупава за Залацеевам, амаль на мяжы Зэльвенскага і Мастоўскага раёнаў, на пачатку XIX стагоддзя нарадзіўся беларускі паэт і фалькларыст Марцін Цяплінскі (1810—1847), вёска Пянюга — радзіма польскай пісьменніцы Марыі Радзевіч (1863—1944), Дзярэчын — казачніка Макея Івана (1882—1955). У Зэльве некаторы час пасля вяртання з бежанства ў 1920 годзе жыла сям'я Валянціна Таўлая. У 30-я гады на Зэльвеншчыне працаваў вядомы гісторык Ян Пятроўскі, які потым з'ехаў у далёкае замежжа. Больш падрабязна вядучая спынілася на жыццёвым шляху ўраджэнца вёскі Збляны Антона Жэбрака — акадэміка АН БССР, беларускага генетыка і селекцыянера.

Лёсам было наканавана сустрэцца славутай паэтцы Ларысе Геніюш з земляком (з вёскі Дабрасельцы) Васілём Захаркам, які быў прэзідэнтам Рады БНР. Іх справу служэння беларускасці шчыра вялі празаік і драматург Юрка Геніюш, Валянціна Ададурава і працягваюць землякі — доктар філалагічных навук Павел Сцяцко, Юрка Голуб, Уладзімір Мазго, Міхась Скобла, Алена Таболіч, Ірына Навуменка і іншыя. Шмат чыталася вершаў нашых землякоў. Настаўніца з Зэльвы Л. Стаўпец расказала аб уражаннях ад сустрэч з Л. Геніюш. У прыватнасці, адзначыла, што больш за ўсё ўражвала тое замілаванне, з якім паэтка ставілася да ўсяго роднага, і вершы пісала, "нібыта кужаль прала з беларускіх слоў і назваў...".

Т. Апон прачытала верш "Беларусачка", напісаны не менш шчырай жанчынай Валянцінай Ададуравай, якая жыла ў вёсцы Казловічы. Калі ж чарга дайшла да творчасці Уладзіміра Мазго, то ў зале загучала песня. І выканала яе Станіслава Прызван. Дарэчы, яе верш пакладзены на музыку выкладчыкам музычнай школы Аляксандрам Сямёнчыкам.

Да свету паэзіі далучыліся Анатоль Усціновіч, Юрый Качук, Наталля Тур і Алена Букатая, якая працуе ў фізіятэрапеўтычным аддзяленні цэнтральнай раённай бальніцы.

Удзельнікі пасяджэння клуба "Ліра" паступова пераходзілі да асэнсавання прыкладной творчасці, выяўленчага мастацтва і жывапісу. Былі прадстаўлены аклады ікон Марыі Харытончык з вёскі Драпаўцы. Не могучы хадзіць з дзяцінства, яна не толькі вытрымала ўдар і цяжар лёсу, але сваёй карпатлівай працай нясе прыгажосць у хаты сялян і храмы. Радуюць вока невялікія мініяцюры, у асноўным пейзажы Зоі Паўлавай, вязанне Людмілы Сарокінай і іншыя вырабы.

**Пётр ЖЭБРАК.**

# ЗВАРОТ

## РЭСПУБЛІКАНСКАГА ТАВАРЫСТВА (ФОНДУ) «ЭКАЛАГІЧНАЯ КУЛЬТУРА»

Паважаныя грамадзяне ўсіх узростаў і веравызнанняў, кіраўнікі і супрацоўнікі розных арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў!

У мэтах аздараўлення жывой пакуль прыроды і прыцягнення кожнага мыслячага чалавека да дабрачыннай, аздараўленчай, творчай дзейнасці і да развіцця экалагічнай культуры звяртаемся да вас з просьбай праявіць максімальна магчымую актыўнасць і ініцыятыву па збору прыгодных для наступнага размнажэння пладоў і насення каштоўных відаў дзікарастучых і культурных дрэваў, кустоў і раслін.

Мы зможам прымножыць багацці планеты Зямля, захаваць здароўе і жыццё кожнага чалавека, вырашыць праблемы духоўнага абагачэння насельніцтва і кожнага чалавека паасобку, маральнага адраджэння і выхавання будучых пакаленняў, свядома ўдзельнічаючы ў гэтай рабоце.

Канкрэтныя дзеянні і рашэнні па аднаўленню і абнаўленню расліннага свету з'яўляюцца адным з вытокаў і падстаў узвышэння душы чалавека, змяншэння дэфіцыту экалагічнай культуры, стварэння спрыяльных передумоў і ўмоў для збліжэння народаў і іх карыснага супрацоўніцтва.

Вынікам і поспеху высакародных мэт гэтага руху будуць садзейнічаць асабістыя сустрэчы і абмен думкамі дзеячаў розных дзяржаў і іх аб'яднанняў у сферы матэрыяльнай і духоўнай культуры, правядзенне розных кангрэсаў, з'ездаў, нарад і кансультацый.

Заклікаем усіх прыняць удзел у гэтым стваральным руху: ад кожнага з нас залежыць наша будучыня і будучыня планеты Зямля — ад адносін адзін да аднаго і да прыродных багаццяў, ад спосабу думак і дзеяння.

З найлепшымі пажаданнямі

**галоўны каардынатар РТЭК,**
**прэзідэнт МНЦ ТЭК**
**Н. ЦЫБАКОЎ.**

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і надрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1291. Падпісана да друку 15.9.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**